© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 4 (740) 25 СТУДЗЕНЯ 2006 г.**

# Работы на Лідскім замку будуць працягнуты



**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
Праспект Перамажцаў, 11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 203 75 74
Тэлефакс (017) 203 90 45

**МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 203 75 74
Телефакс (017) 203 90 45

13.01.2006 № 02-03/4
На № 235 ад 27.12.2005 г.

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**Аб выдзяленні сродкаў на правядзенне рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па замку ў г. Ліда**

Міністэрства культуры разгледзела Ваш зварот па пытанні фінансавання рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па замку ў г. Ліда і паведамляе.

Заказчыкам на выкананне работ выступае камунальнае ўнітарнае прадпрыемства "УКБ Лідскага райвыканкама".

У 2005 годзе на выкананне першачарговых і супрацьаварыйных работ былі накіраваны сродкі рэспубліканскага бюджэту па артыкулу "капітальны рамонт" у памеры 64.5 млн. рублёў і мясцовага бюджэту ў памеры 10.0 млн. рублёў, якія поўнасцю асвоены.

У бягучым годзе з рэспубліканскага бюджэту, на працяг рэстаўрацыйна-аднаўленчых і праектных работ Міністэрства прадугледзела выдзяленне 100.0 млн. рублёў.

Улічваючы стан аб'екта, яго значнасць для народа Беларусі, маем надзею на актыўны ўдзел мясцовага бюджэту, спонсарскай дапамогі і іншых пазабюджэтных крыніц, у тым ліку і грамадскіх аб'яднанняў, што створыць належныя ўмовы ў справе захавання спадчыны і дазволіць прадоўжыць работы.

**Намеснік Міністра У. П. Грыдзюшка.**

# ЗВОН СВАБОДЫ

З першай хвіліны з'яўлення на свет дзіця акунаецца ў стыхію колераў і гукаў... Што з іх мацней уплывае і фармуе душу чалавека? Колер, форма, гук... З іх вынікаюць найбольш эмацыйныя чалавечыя пачуцці. Мы бачылі, як колер ружы — знак любові і міласці — яднаў нацыю, абуджаў народ на рашучыя дзеянні – змяніць звыклы, накінуты палітычнымі пярэваротнямі непрымальны для большасці лад жыцця. І ўрэшце, зрабіцца гаспадарамі ў сваёй хаце. Памаранчавы колер вядзе людзей на Майдан Незалежнасці, каб паказаць усяму свету: "Мы е нацыя, мы е народ..."



Нашыя колеры, што павінны лучыць нас, – глыбока сакральныя. Бел-чырвона-белы, як пакутлівая Плашчаніца Хрыста. Наш гук – поліфанічны гулкі звон — з даўніх часоў зваў нас на Вялікае Веча, вяршыць сваю гісторыю, свой лёс. У час, калі нашыя душы засмечаны хлуснёй і крывадушшам, калі няма свабоды, якая б давала магчымасць асобе рэалізаваць свае здольнасці, калі палітычныя інтрыгі, сумнеўныя дамовы становяцца пагрозай поўнай страты незалежнасці, калі наша родная спрадвечная мова, як тая падчарка, гнаная ў родным краі — **пара біць у званы!!**

*(Працяг на ст.3.)*

# 85 гадоў з дня народзінаў Івана Шамякіна



**ШАМЯКІН** Іван Пятровіч (н. 30.1.1921, в. Карма Добрушскага р-на Гомельскай вобл. - 14.10.2004), бел. пісьменнік, грамадскі дзеяч. Нар. пісьменнік Беларусі (1972). Акад. Нац. АН Беларусі (1994, чл.-кар. 1980). Герой Сац. Працы (1981). Скончыў Гомельскі тэхнікум буд. матэрыялаў (1940), Рэсп. парт. школу пры ЦК КП(б)Б (1950). У 1945—48 настаўнічаў, з 1950 рэдактар Бел. дзярж. выд-ва, з 1952 гал. рэдактар альманаха «Советская Отчизна». З 1954 нам. старшыні, з 1966 сакратар, з 1968 2-і сакратар, з 1971 1-ы нам. старшыні, з 1976 1-ы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1980—92 гал. рэдактар выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя». У 1971—85 Старшыня Вярх. Савета БССР. Друкуецца з 1941 (нарысы і вершы). Першая аповесць — «Помста» (1945). Раман «Глыбокая плынь» (1947) пра падзеі часоў акупацыі і ўсенар. змагання супраць фашыстаў на Гомельшчыне. Асэнсаванне пасляваен. рэчаіснасці ў кн. аповесцяў і апавяданняў «На знаёмых шляхах» (1949), «У Маскву» (1950), «Дзве сілы» (1951), «Апавяданні» (1952), «Першае спатканне» (1956), рамане «У добры час» (1953) і інш. У рамане «Крыніцы» (1956, Літ. прэмія імя Я. Коласа 1959; інсцэніраваны Бел. т-рам імя Я.Коласа, 1961) выкрыццё валюнтарысцкіх метадаў кіравання эканомікай, сац. і паліт. жыццём. У пенталогіі «Трывожнае шчасце» («Непаўторная вясна», 1957; «Начныя зарніцы», 1958; «Агонь і снег» і «Пошукі сустрэчы», 1959; «Мост», 1965) лёс герояў асацыруецца з лёсам усяго пакалення, якое прайшло праз цяжкія выпрабаванні вайны, змагаючыся з ворагам на франтах і ў партыз. атрадах, і ў цяжкіх пасляваен. умовах аднаўляла нар. гаспадарку. Надзённыя праблемы жыцця ў зб-ках прозы «Матчыны рукі» (1961), «Вячэрні сеанс (1968). У раманах «Сэрца на далоні» (1963, разам з «Трывожным шчасцем» Дзярж. прэмія Беларусі імя Я. Коласа 1968; ) і «Снежныя зімы» (1968) праблемы прамадз. адказнасці чалавека перад самім сабой, народам, гісторыяй. Апавяд. «Хлеб», аповесці «Першы генерал» (апубл. пад назвай «Лёс майго земляка»), «Браняпоезд «Таварыш Ленін» (абедзве 1970), кінааповесць «Эшалон прайшоў» (1971, кінафільм «Хлеб пахне порахам», 1974), раман «Петраград—Брэст» (1981—83) на гісторыка-рэв. тэму. У раманах «Атланты і карыятыды» (1974, аднайм. відэафільм Бел. тэлебачання, 1980, «Вазьму твой боль» (1978, аднайм. кінафільм, 1981; Дзярж. прэмія Беларусі 1982) паказ актыўнай пазіцыі сучасніка, яго непрымірымасці да кансерватызму, бюракратызму. Аповесці «Шлюбная ноч» (1975, кінафільм «Вясельная ноч», 1980) і «Гандлярка і паэт» (1976, аднайм. кінафільм, 1978) пра складаныя шляхі людзей з нар. нізоў да актыўнай барацьбы ў гады Вял. Айч. вайны. У рамане «Зеніт» (1987) падзеі апошняга года Вял. Айч. вайны. Аповесці «Ахвяры» (1990), «Падзенне» (1994), раман «Злая зорка» (1991), «Аповесці Івана Андрэевіча» (1993) і інш. пра жыццё Беларусі ў постчарнобыльскі час. У аповесцях «Выкармак» (1996), «Завіхрэнне» (1998), «Пошукі прытулку» (1999), «У засенні палаца», «Стары рамантык», рамане «Губернатар» (усе 2000) і інш. вострая крытыка сац. выдаткаў працэсу капіталізацыі краіны, які прывёў да антыгуманных праяў у грамадстве. Раман «Вялікая княгіня» (1996) на гіст. тэматыку. Майстрам вострага, дынамічнага сюжэта, займальнай інтрыгі выявіў сябе ў драматург. творчасці. Яго п'есы вызначаюцца шырокім падзейна-тэматычным і ідэйна-пафасным дыяпазонам. Творчая манера драматурга эвалюцыяніравала ад распрацоўкі дэтэктыўна-прыгодніцкіх фабул («Не верце цішыні») і паказу пераважна знешняй надзейнасці («Дзеці аднаго дома») да ўсебаковага даследавання мікракосмасу грамадства: рэзкай крытыцы падвергнута мяшчанства ў п'есе «Выгнанне блудніцы», праблемы няпростага сталення маладой асобы склалі сэнсава-выяўл. стрыжань п'ес «Экзамен на восень», «Баталія на лузе» (1972), «Залаты медаль». Псіхал. драма «І змоўклі птушкі» — апалогія чуласці, спагадлівасці, душэўнай далікатнасці ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі. Літ.-крытычныя артыкулы, выступленні, партрэты знаёмых і сваякоў у кнігах «Размова з чытачом» (1973), «Карэнні і галіны» (1986), аповесці «Слаўся, Марыя» (1999) і інш.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





№ 4 (740) 25 СТУДЗЕНЯ 2006 г. Наша слова

# Беларуская мова: сучасны стан і перспектывы

*Для таго, каб аналізаваць сучасны стан беларускай мовы, неабходна ўсталяваць часавыя рамкі, вызначыўшы пэўны перыяд. У сувязі з тым, што на падставе вынікаў рэферэндуму беларуская мова змяніла свой статус у 1995 годзе, калі яна перастала выконваць функцыю адзінай дзяржаўнай мовы і стала адной з дзвюх дзяржаўных моў, перыяд з 1995 г. па сённяшні дзень аўтар вызначае аб'ектам разгляду.*

Перш разгледзім заканадаўчае рэгуляванне выкарыстання беларускай мовы ў дзяржаве. Пасля 1995 года Закон аб мовах у Беларускай ССР, прыняты 26.01. 1990г., страціў сваю юрыдычную сілу і перастаў выконвацца, бо рэгуляваў выкарыстанне адзінай дзяржаўнай мовы—беларускай. З'явілася неабходнасць юрыдычнага забеспячэння рэгулявання ўжытку другой дзяржаўнай мовы—рускай. З 1995 па 1998 год адсутнічала юрыдычная база для двухмоўя і выбару моў. 13.07.1998 года была прынятая новая рэдакцыя Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Аднак Закон не адлюстроўвае наяўнасць двухмоўя ў краіне, выкарыстоўваючы спалучэнні слоў "на беларускай і(або) рускай мовах", а правам выбару надзеленыя не жыхары краіны, а дзяржаўныя чыноўнікі. Грамадзяніну Беларусі складана дабіцца свайго права выбару беларускай мовы ў любой сферы. У нас у краіне няма на беларускай мове бланкаў і дакументаў, якія рэгулююць жыццё ў краіне: плацёжных квіткоў за кватэру, святло, сотавы тэлефон і інш. Па прапанове ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Канстытуцыйны Суд разгледзеў Закон і 04. 12. 2003 года прыняў рашэнне аб неадпаведнасці Закона аб мовах дзейнай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. На сёння ў Нацыянальным сходзе знаходзіцца на разглядзе праект новай рэдакцыі Закона аб мовах. Абарону моў рэгулююць арт.6 раздзела 1 Закона аб мовах і арт. 172 раздзела 2 Адміністрацыйнага Кодэкса, якія закранаюць пытанні публічнай знявагі, стварэння перашкодаў і абмежаванняў у карыстанні мовамі і інш. Аднак адсутнасць у юрыдычнай практыцы прэцэдэнтаў у гэтай сферы паказвае на фармальны характар гэтых юрыдычных нормаў.

Прааналізуем нарматыўную сферу беларускай мовы. Сёння дзейнічаюць нормы, прынятыя ў 1957 годзе. Аднак гэта быў перыяд, калі, як мяркуюць многія даследчыкі, адбывалася русіфікацыя беларускай мовы, і на сённяшні перыяд многія кадыфікаваныя нормы састарэлі. З'явілася паняцце "кадыфікаваная норма, якая не з'яўляецца нормай беларускай мовы". Так, у сваёй кнізе "Культура мовы" Павел Сцяцко звяртае ўвагу на вялікую колькасць такіх слоў, у якіх парушаныя спрадвечныя нормы беларускай мовы: словаўтваральныя—*выключацель, вядучы*; арфаграфічныя—*баластны, пецярбургскі*; марфалагічныя—*народу, пры браце, дзедзе*; лексічныя—*назва вёскі Акцябр, ссылка, дзецішча, ачаг, апушка, ціхоня, краснуха, вывеска* і інш.; сінтаксічныя—*курсы па выбары, па выхадных днях, больш нуля* і інш. Аднак нягледзячы на адсутнасць новай кадыфікацыі, нормы мовы мяняюцца. Змены адбываюцца шляхам з'яўлення новых нормаў у слоўніках, падручніках і дапаможніках па беларускай мове: ***шэсцьдзесят, экзэмпляр, узаеміны, вядоўца.*** Некаторыя спрэчныя моманты вырашылі аўтары тэстаў па беларускай мове: было ўпарадкавана ўжыванне суфіксаў ***–уч-,-юч-, -ач-, -яч-, -ўш-, -ш-, -ем-, -ім-*** у дзеепрыметніках, набылі адназначнасць пэўныя сінтаксічныя адзінкі: ***ісці ў грыбы, у ягады***. Аднак такія адзінкавыя змяненні ў мове ствараюць шмат праблем, асноўная з якіх—з'яўленне разнабою ў слоўніках. Такім чынам, можна канстатаваць, што неўнармаванасць мовы вымагае новай рэформы. Інстытут мовазнаўства падрыхтаваў праект новых правапісных нормаў, аднак справа не дайшла да лагічнага канца.

Неабходна ўлічваць, што цяпер існуюць два варыянты правапісу: класічны, ці так званая "тарашкевіца", і сучасны, так званая "наркамаўка". У гэтым годзе група мовазнаўцаў склала праект зводу правілаў беларускага класічнага правапісу ў сучаснай нармалізацыі. Калі нормы класічнага правапісу набудуць кадыфікаваны варыянт, знікне праблема ужытку гэтых нормаў для супрацоўнікаў рэдакцыі газеты "Наша ніва" і інш. недзяржаўных СМІ.

У нашай краіне беларуская мова найперш выконвае ролю ідэнтыфікацыі народа. Так, па дадзеных перапісу 1999 беларускую мову назвалі роднай 73, 7% усяго насельніцтва, а беларусаў— 85,6%. Назіраецца павышэнне эстэтычнай ролі мовы. Даўно адышлі ў нябыт выразы *"говорите по-человечески", "колхозный язык"*. Прыхільнасць да маўлення па-беларуску, добразычлівасць, пахвала ў адрас носьбіта мовы, словы прабачэння за адсутнасць навыкаў маўлення—такія праявы з'яўляюцца тыповымі. І толькі камунікатыўная роля беларускай мовы на сёння застаецца мала запатрабаванай жыхарамі Беларусі. Па перапісе насельніцтва беларускай мовай штодня дома карыстаюцца 36,7% насельніцтва рэспублікі, беларусы—41%. У сельскай мясцовасці працэнт больш высокі—74,7, у горадзе—19,8% усіх жыхароў краіны. Трэба адзначыць таксама наяўнасць розных узроўняў пры карыстанні мовай у маўленні. Так, адны беларусы карыстаюцца літаратурнаю мовай, другія—дыялектнай, трэція выкарыстоўваюць змешаную мову, якую ў народзе называюць "трасянкай". Неабходна адрозніваць дыялектную мову і змешаную, рысы якіх маюць падобныя праяўленні: наяўнасць русізмаў, ненармаваных, запазычаных марфем, сінтаксічных адзінак і інш. Ды і сама аснова "трасянкі"—гэта найбольш беларуская мова, чым руская. Некаторыя даследчыкі падаюць лічбы, якія выклікаюць недаўменне. Так, у газеце "Новы час" № 9 с.5 мы можам прачытаць, што з усяго насельніцтва беларускай мовай карыстаецца толькі 4,7%, расійскаю—45,9%, і расійскаю і беларускаю—19,9%, змешанай—28,7%, іншай—0,1%. Так засталася незаўважанай дыялектная мова.

У камунікатыўнай сферы адбываюцца пэўныя зрухі. Усё часцей мы можам пачуць маўленне па-беларуску, асабліва ў маладзёвым асяроддзі, сферы спецыялістаў, навукоўцаў, інтэлігенцыі, пісьменніцтва. Упершыню ў сферы міжнародных адносінаў стала выкарыстоўвацца беларуская мова як прадмет навучання. Так, у 2002-2003 навучальным годзе ў Беларусі вывучыў беларускую мову і добра ёю валодаў намеснік амбасадара ЗША Джон Кунштадтэр, супрацоўніца прадстаўніцтва ААН у Беларусі Карын Брусэ, у Нью-Йорку вывучыў мову і добра ёю валодае цяперашні пасол Амерыкі, размаўляе па-беларуску аташэ па культуры японскай амбасады Касіна Го.

У сферы адукацыі ў параўнанні з папярэднім перыядам, калі беларуская мова была адзінай дзяржаўнай мовай, заўважны рух назад. Так, у краіне налічваецца 12,9% дзяцей, якія выхоўваюцца ў дзіцячых садках на беларускай мове, гэта пераважна ў сельскай мясцовасці. У той жа час па вызначэнні ЮНЕСКО, калі на мове размаўляе менш як 30% дзяцей, яна знаходзіцца на мяжы знікнення. У сярэдняй адукацыі ў 2004- 2005 годзе па-беларуску навучалася 23,8% дзяцей. Агульная колькасць беларускамоўных школ у нашай краіне ў мінулым навучальным годзе была 2428—59,2%. Рускамоўных—1366—33,3%. Такія суадносіны складваюцца за кошт малалікіх пачатковых і базавых школ у вёсках. Увогуле, у сельскай мясцовасці на беларускай мове навучаецца 75,7% вучняў, а ў гарадах—7,4%. Колькасць беларускамоўных школ пастаянна скарачаецца. Так, у 2003-2004 годзе было зачынена 118 школ па прычыне "неперспектыўнасці". А ўсяго за 9 гадоў, пачынаючы з 1995 года былі зачыненыя 634 беларускамоўныя школы, адчыненыя 1124 рускамоўныя школы. Змяншаецца таксама колькасць вучняў, якія ідуць у першыя беларускамоўныя класы. Калі ў 1994-1995 навучальным годзе першакласнікаў было 75%, то ў 2003-2004 годзе—22,4%. Якраз у сферы адукацыі найбольш праявіўся дэкларатыўны характар права выбару мовы жыхарамі Беларусі. Многія выбіралі беларускую мову для адукацыі сваіх дзяцей, аднак сутыкнуліся з вялікімі праблемамі і мусілі адступіць. І толькі некаторыя баранілі сваё права выбару мовы цераз суд. Гэта здзейснілі бацькі Агаты Мацко ў г. Гродна, Машы Каралёвай з Магілёўскай вобласці і інш.

Калі аналізаваць стан беларускамоўнага выкладання ў сярэдніх спецыяльных установах, то ў краіне няма ні адной такой установы, а аб'ём выкарыстання беларускай мовы ў ВНУ вызначыць немагчыма, таму што не вядзецца такая статыстыка. Па неапублікаваных дадзеных лічыцца, што ў ВНУ Беларусі на беларускай мове навучаецца 1% студэнтаў. Адсутнасць беларускамоўных універсітэтаў уплывае на выбар бацькамі і вучнямі мовы навучання, якія не бачаць перспектыў беларускай мовы ў адукацыі. Так, у 2002 годзе 27,1% выпускнікоў беларускамоўных школ не змаглі прадоўжыць адукацыю на беларускай мове ў ВНУ. Такім чынам, можна канстатаваць, што ідзе звужэнне выкарыстання беларускай мовы ў сферы адукацыі.

Неспрыяльным з'яўляецца стан беларускай мовы ў кнігадрукаванні і СМІ. Так, у 2000 годзе ў Беларусі было выдадзена 9,9% беларускамоўных кніг па назвах і 9,6% па тыражу. Падобная сітуацыя назіраецца і ў выданні газет. Неабходна адзначыць таксама звужэнне сферы выкарыстання беларускай мовы на радыё і тэлебачанні, аднак па гэтай праблеме не існуе статыстычных дадзеных. Што да мовы работы пошты і тэлеграфа, то ў гэтай сферы назіраецца паступовае пашырэнне выкарыстання беларускай мовы. Так, выдадзена серыя марак, канвертаў і паштовак, прысвечаных знакамітым дзеячам краіны і беларускім святам. Не сустракае перашкодаў афармленне тэлеграм па-беларуску.

Трэба адзначыць пашырэнне выкарыстання беларускай мовы ў сферы абслугоўвання: на транспарце, у гандлі. Усё часцей мовай абвестак ў гарадскім і міжгароднім транспарце, на чыгунцы становіцца беларуская. А ў гандлёвай сферы беларуская мова ўсё часцей ужываецца пры маркіроўцы тавараў, напісанні этыкетак тавараў, у рэкламнай дзейнасці.

Захоўваецца традыцыя выкарыстання беларускай мовы ў назвах дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, установаў і грамадскіх арганізацый, у мове тапонімаў і картаграфічных выданняў.

Такім чынам, можна канстатаваць, што беларуская мова знаходзіцца ў працэсе развіцця, які мае спецыфічны характар, выкліканы прапыненнем беларусізацыі, якая пачыналася ў пачатку 90-х гадоў і была прыпыненая пасля 1995 года.

***Людміла Дзіцэвіч,***
***ст.выкл. БДУ культуры і мастацтваў.***



**МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
вул. Савецкая, 9
220010, г. Мінск
тэл. 227-47-36, факс 200-84-83
E-mail: root@minedu.unibel.by

**МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
ул. Советская, 9
220010, г. Минск
тел. 227-47-36, факс 200-84-83
E-mail: root@minedu.unibel.by

[illegible] № [illegible]

На № ____________ от ____________

***Лісоўскаму С.А.***
***Вул. М.Танка,36, корп.2,кв.61 г.Мінск.***

***Паважаны Лісоўскі С.А.!***

*У сувязі з Вашым пісьмом на імя намесніка старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь У. Н. Дражына Міністэрства адукацыі ў межах пытанняў сваёй кампетэнцыі паведамляе наступнае.*

*Дзяржаўнымі мовамі ў нашай краіне з'яўляюцца беларуская і руская мовы.*

*У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" грамадзянам нашай краіны гарантавана права выбару мовы навучання. З улікам гэтага ў Рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць установы, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з беларускай, рускай і дзвюма мовамі (беларускай і рускай) навучання. Так, у 2005/2006 навучальным годзе ў рэспубліцы функцыянуе 4114 устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з іх з беларускай мовай навучання - 2428 (59,2%), з рускай - 1366(33,3%), з дзвюмя мовамі навучання - 307(7,5%) школ. Акрамя гэтага, у дзвюх школах навучальны працэс ажыццяўляецца на польскай мове і ў адной школе - на літоўскай.*

*У сельскай мясцовасці на беларускай мове працуюць 2355 (82,3 %) агульнаадукацыйных школ, на рускай - 418(14,6%), з дзвюма мовамі навучання - 86(3,0%) школ.*

*Ва ўстановах, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, у гарадской мясцовасці пераважае руская мова навучання. Так, з агульнай колькасці 1244 агульнаадукацыйных школ гарадской мясцовасці на беларускай мове арганізавана навучанне ў 73 школах (5,9%), на рускай - у 948 (76,2%), на дзвюх мовах - у 221 (17,8%). Трэба адзначыць, што колькасць школ з беларускай мовай навучання ў гарадской мясцовасці паступова павялічваецца. Напрыклад, калі ў 1999/2000 навучальным годзе такіх школ было 36, у 2003/2004 навучальным годзе -53, то ў 2004/2005 навучальным годзе - 73.*

*Міністэрствам адукацыі прынята ведамасная праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі. У адпаведнасці з гэтай праграмай найперш прымаюцца меры па павелічэнні колькасці ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, у гарадской мясцовасці.*

*Ва ўсіх тыпах устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, на беларускай мове навучаецца 301250(23,8%), на рускай-962549 (76,1%).*

*З мэтай пацвярджэння аднолькавага статусу беларускай і рускай моў у апошні час ва ўстановах, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, адводзіцца аднолькавая колькасць гадзін на вывучэнне гэтых прадметаў.*

*У Тыповым вучэбным плане ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі (узровень агульнай базавай адукацыі) з рускай мовай навучання прадугледжана вывучэнне беларускай мовы з першага класа. Вучэбныя прадметы «Мая Радзіма-Беларусь" у пачатковай школе, а таксама "Гісторыя Беларусі" і "Геаграфія Беларусі" ва ўсіх класах усіх тыпаў школ выкладаюцца толькі на беларускай мове. Усе выпускнікі базавай школы ў якасці абавязковага трымаюць экзамен па беларускай мове, выпускнікі сярэдняй школы здаюць экзамен па выбары па адной з моў - беларускай або рускай.*

*У гэтым годзе ў 40,4 % дашкольных установах навучальна -выхаваўчы працэс вядзецца на беларускай мове, у сельскай мясцовасці -75, 5%.*

*З агульнай колькасці дзяцей дашкольнага ўзросту 12,9 % займаюцца на беларускай мове.*

*Падчас дапрацоўкі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" Вашы заўвагі і прапановы будуць яшчэ раз дэталёва прааналізаваны і па меры магчымасці ўлічаны.*

***Намеснік Міністра*** *К.С.Фарына.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013







# Беларускія пісьменнікі і *белорусскоязычные писатели*

**Хто за што, а я за родную мову. З улікам гэтага асэнсоўваю стварэнне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Калі шчыра, то няхай сабе існуюць хоць дзесяць творчых суполак літаратараў, альбо хоць ніводнай не будзе. Галоўнае, каб меліся яркія аўтары і кнігі іх карысталіся попытам не толькі ў роднай краіне.**

**Што да нованароджанага СПБ, то ёсць сумненне, што беларуская літаратура (а гэта значыць і мова) атрымае ад гэтага новае развіццё. Трывожныя думкі турбуюць сэрца. Але, як гаворыцца, час пакажа.**

Яшчэ К. Маркс казаў, што любую з'яву трэба ацэньваць з пункту гледжання інтарэсаў тых, хто стаіць за гэтай з'явай. У нашым выпадку — група літаратараў на чале з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, дзейным палітыкам, набліжаным да Адміністрацыі Прэзідэнта, адстаўным міліцэйскім генералам Мікалаем Чаргінцом (Марчук, Трахімёнак, Аўруцін, А. Марцінкевіч, Карызна, Папова, Пазнякоў, Р. Сакалоўскі, Палікаміна і інш.). Дарэчы, М.Чаргінец не хавае сваёй адданасці цяперашняму ладу жыцця ў Беларусі, верай і праўдай служыць яму. Чалавек, які мае адкрытую і ясную пазіцыю, заслугоўвае павагі.

Інтарэс дзяржавы праявіўся і ў тым, што новая структура адразу была зарэгістравана ў Мінюсце. Той, хто спрабаваў зарэгістраваць няўрадавае грамадскае аб'яднанне, прайшоў усе інстанцыі і нарэшце атрымаў "адлуп", толькі ўсміхнецца, прачытаўшы пра шчаслівую, напрыклад, ГА *"Гродненское русское литературное общество"* ("Гродзенская праўда", 23. 04.2005). Юрыдычны адрас для "объединения людей, русских и белорусов, пишущих на русском языке" таксама знайшоўся адразу: вуліца Замкавая, 20, абласная бібліятэка імя Карскага.

Пра зацікаўленасць дзяржавы мець паслухмяны Саюз пісьменнікаў сведчыць і тое, што яму вярнулі старую назву – СПБ. А гэта парушэнне заканадаўства. Грамадскія аб'яднанні не маюць права мець ў назве слоў "народны" і "Беларусь". Практыка падзелу на чужых і сваіх працягваецца. Не хоча арганізацыя падпарадкоўвацца татальнаму кантролю, яе штучна дзеляць на дзве часткі, адна з якіх стаіць на пазіцыях *"чего изволите"*. Так нядаўна было з Саюзам палякаў у Беларусі. Такіх фактаў удосталь.

Кіраўніцтва СПБ сцвярджае, што ніякай палітыкі ў яе дзеяннях шукаць не трэба. Маўляў, група літаратараў вырашыла пакінуць СБП (цяперашні Саюз беларускіх пісьменнікаў) якраз з прычыны яе *"политиканства"*. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца інтэрвію першага сакратара створанага СПБ А. Аўруціна газеце "Рэспубліка". Ён кажа, што ў СБП замест творчай работы пачаліся мітынговыя страсці, прынцце "пастаноў", барацьба з уладай, *"которая сопровождалась оголтелой спекуляцией на культуре, проблеме белорусского языка и т.д. Всё это подпитывалось и продолжает подпитываться Западом и направлено на подрыв существующего государственного строя"*.

Казкі пра варожы Захад цяпер вельмі папулярныя ў Беларусі. І матыў гэты прыдумалі не літаратары, якія цяпер стануць ідэалагічнай падпоркай рэжыму. Але гэта іншая тэма, якая патрабуе асобай гаворкі.

Дык што, стварэнне і паспешлівае юрыдычнае замацаванне новага пісьменніцкага аб'яднання на гэтым фоне не палітычная справа? Анатоль Аўруцін, які не быў прыняты ў СБП, сцвярджае, што літаратура *"должна существовать вне политики"*. Слаба чытаў гэты таварыш творы У. Леніна, які разумна гаварыў, што няма творчага работніка па-за палітыкай. Проста трэба вызначыцца, кажучы словамі Максіма Горкага: з кім вы, работнікі культуры?

Адказ на гэтае пытанне быў дадзены ў "Звароце да літаратурнай грамадскасці краіны", прынятым 18 лістапада 2005 года ўстаноўчым сходам СПБ. Там што ні фраза, то палітыка. Гаворыцца, што кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў заняло найбольш агрэсіўную да палітыкі кіраўніка дзяржавы пазіцыю, ператварылася ў саюзніка агрэсіўнага нацыяналізму і кан'юктурнага палітыканства, палічыла сябе вартымі непаважна аднесціся і да вынікаў усенароднага рэферэндуму, які канстытуцыйна ўзаконіў раўнапраўе беларускай і рускай моў, замену нацыянальнай сімволікі...

Маленькая рэмарка. Параю таварышам пісьменнікам з СПБ завітаць у менскую сядзібу ГА "Таварыства беларускай мовы", звярнуцца да яго кіраўніка сп. Алега Трусава, які навукова-папулярна і прадметна, растлумачыць пра "раўнапраўе" беларускай і рускай моваў, гарантаванага Канстытуцыяй і радасна ўхваленага беларускім народам.

У гэтай жа заяве звяртае на сябе ўвагу такі пасаж: "Забяспечыць сваім сябрам дастойнае існаванне, выданне іх твораў, дзе ніхто не будзе адчуваць сябе прыніжаным па нацыянальнай і па моўнай прыкмеце". Вось дзе, аказваецца, сабака закапаны! Забяспечыць ўласнае існаванне за кошт падачак дзяржавы! Гэта галоўнае, а не якасць твораў. А каб прабіваць свае "произведения" у праўленне СПБ уключылі *"большое количество людей, которые ответственны за литературу. Например, директор издательства "Мастацкая літаратура", главные редакторы всех государственных литературно-художественных изданий, директор холдинга "Літаратура і мастацтва"*.

Такім чынам, вы, *господа-товарищи*, вызначыліся, чыю і якую палітыку будзеце праводзіць, вядома. Як і тое, што кармушкай стане аднаўлены Літфонд з яго дапамогай, дачамі, камандзіроўкамі, магчыма, паездкамі па асобных краінах СНД, бо дзяржаве Захаду, які вы так ненавідзіце, вас туды і блізка не пусцяць. Дык ці шукаць дурнейшых за сябе, пісаць лухту?..

Сказ: *"Союз белорусских писателей выключился из литературного процесса"* патрабуе ўдакладнення. Сорамна, тав. Аўруцін! Не ведаць твораў Васіля Быкава, напісаных у апошнае дзесяцігоддзе! Адзін гэты аўтар дае фору ўсім разам узятым пісьменнікам-празаікам новага літаратурнага згуртавання. А зборнік вершаў "Ксты" Рыгора Барадуліна? Хто з "новых" можа параўняцца талентам з прызнаным мэтрам беларускай паэзіі? Пералік аўтараў, якія засталіся вернымі свайму сумленню, іх цудоўных твораў можна працягваць, памятаючы пра здольную лаўрэатку Дзяржпрэміі Раісу Баравікову з цяперашняга СПБ. Але ці па ўласнай волі апынулася там? Усё ж такі рэдактар часопіса, які фінансуецца дзяржавай.

Так што паглядзім на якасць прадукцыі новых сяброў СПБ. Казаць, што аўтар, які мае зборнік, выдадзены ў мястачковай друкарні, здолее падняцца вышэй уласнай галавы, смешна. Цяпер кніжачку можа выдаць любы графаман, былі б грошы і свой чалавек, які закіне слова, дзе трэба. Дарэчы, яшчэ адна тэма патрабуе надзвычай крытычнага падыходу: запаўненне рынка эрзац-літаратурай мястачковага кшталту.

Таму ж Аўруціну належыць фраза: "*Тот союз (СБП – А.Л.) создал такую ситуацию, что если ты пишешь не по-белорусски, то ты – человек второго сорта*". У той жа час на самым высокім дзяржаўным узроўні сцвярджаецца, што рускія ў Беларусі, і рускамоўныя пісьменнікі, атрымліваецца, таксама, жывуць лепш, чым у Расіі. Дзе ж тут *"второй сорт"?*

Хачу звярнуць увагу на цікавы факт. Сярод Народных пісьменнікаў Беларусі няма ніводнага рускамоўнага. Не таму, што рускамоўныя аўтары – кепскія людзі ці слабыя на талент. Беларуская тэматыка вымагае ад пісьменніка пранікнення ў глыбінны беларускі асяродак з яго мовай, звычаямі, традыцыямі, культурай. Усё гэта можна перадаць толькі на роднай мове, бо нават самы лепшы пераклад не перакажа ўласна беларускага. Пачытайце на рускай мове "Людзі на балоце" Івана Мележа, апавяданні Якуба Коласа ці пагляздзіце п'есу "Паўлінка" Янкі Купалы па-руску. Губляецца нацыянальны каларыт, атрымліваецца нешта а-ля беларускае, часам надта прымітыўнае, вартае жалю...

Па-другое, сам пісьменнік павінен быць Беларусам з народа, жыць яго турботамі і праблемамі, быць народным па стану душы, ведаць спадчыну. Рускамоўны аўтар, які нараджаны і жыве ў Беларусі, ніколі не напіша лепш за Талстога, Буніна, Ясеніна, Распуціна, Васільева і дзесяткаў іншых моцных пісьменнікаў Расіі, талент якіх паходзіць з народных глыбінь.

...Кажуць, што неўзабаве можа з'явіцца некалькі народных пісьменнікаў Беларусі, якія пішуць па-руску. У тым ліку называюць прозвішча Э.Скобелева. Бачу, як чытач наморшчыў лоб, старанна аднаўляе ў памяці гэта імя і кнігі, напісаныя ўзгаданым творцам. Найперш помніцца Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Вольга Іпатава, Анатоль Кудравец, Анатоль Вярцінскі, Данута Бічэль...

У новым СПБ беларускамоўных аўтараў, кажуць, будзе курыраваць нехта Міхась Пазнякоў. Абсалютна не супраць гэтага чалавека, але, каб "курыраваць" кагосьці, трэба ўласнай творчасцю давесці права на гэта. Уяўляю сабе карціну, спадар (ці таварыш?) з СБП запросіць на "бяседу" пералічаных вышэй творцаў, вядома, калі яны пагодзяцца, і будзе настаўляць на шлях ісціны.

Удзячнымі слухачамі акажуцца хіба што нядаўна прынятыя ў Саюз пачаткоўцы з гарадоў і вёсак краіны. Як жа – пісьменнікі, прынятыя агульным спісам на ўстаноўчым з'ездзе! Там прысутнічала 127 чалавек. Вольга Іпатава кажа, што асноўная частка, прыблізна 80, — гэта пачаткоўцы ці графаманы, якіх у ранейшы саюз не прымалі з-за іх нізкага прафесійнага ўзроўню і якіх цяпер "прызначылі быць пісьменнікамі", развіваць родную літаратуру.

Вось чаму і баліць сэрца за беларускую мову. Баль будзе правіць, як і паўсюдна ў краіне, руская мова. Такая рэальнасць. Ніякі "вертыкальны" СПБ не зменіць сітуацыю. Яго новыя члены цешаць уласнае самалюбства, раптоўна адчуўшы сябе пісьменнікамі. Наперадзе чакае літфондаўская кармушка, карыстанне дзяржаўнымі прывілеямі, самазадаволенае надзіманне шчок пры знаёмстве – *знаете ли, член Союза писателей Белоруссии.*

Аднак застаецца спадзяванне на сяброў СБП, які знішчаецца. Пры чарговай перарэгістрацыі ці праверках кантралюючых органаў знойдуцца прычыны, каб гэтае грамадскае аб'яднанне наогул знікла з мапы грамадскага жыцця краіны. Але беларускія пісьменнікі не збіраюцца згортваць сваю творчасць ні пры якіх абставінах. Прыкладам служыць Васіль Быкаў. Тое, што не атрымаецца сёння, абавязкова спраўдзіцца заўтра.

*Антон Лабовіч,*
*Гародня.*

# ЗВОН СВАБОДЫ

*(Пачатак на ст.1.)*

Наступае час нашага беларускага Звана Свабоды. Хай ён страсяне паветра, і розгалас яго магутнай хваляй пачуецца ад Святой Сафіі ў Полацку да Каложскай царквы ў Гародні, ад Буга да Дняпра, ад Усходу да Захаду. Гэты звон будзе несці накрэсленыя на ім духоўныя сімвалы нашых прашчураў, словы ад Бібліі Францішка Скарыны да прарочых выказванняў Васіля Быкава. На ім, адлітым у бронзе, сёння красуецца выява імклівай Пагоні – адзнака незалежнасці, моцы і адвагі.

З самых даўніх часоў захаваліся звесткі пра званы. Ёсць меркаванне, што радзімай званоў у тым выглядзе, у якім яны дайшлі да нас, быў горад Нола ў Італіі. Прыпісваюць гэтае вынаходніцтва Понцію Меранію Паўліну, які жыў у 353-431 гг. У паданні, якое дайшло да нашага часу, расказваецца, як святы Паўлін абыходзіў сваю епархію, хадзіў з вёскі ў вёску, падбадзёрваў сваю паству ў Хрыстову веру — ды сустрэў халодную абыякавасць, няверу, адчай. І цяжкія думкі адолелі святога япіскапа. Звярнуўся святы Паўлін з малітваю да Бога: "Божа, падай свой голас да гэтай беднай цёмнай зямлі... Злучы нашыя сэрцы пры нашай раз'яднанасці, збяры разам усіх, хто заблудзіў, каб сэрцы нашыя, адданыя Табе, не блукалі ў бязмежнай цемнаце." Паводле ўзораў кветак-званочкаў ён з суседам-меднікам з расплаўленага металу — медзі, волава і вісмуту — пачаў адліваць свой звон. І калі справа была скончана, стукнуў малатком па адлітым звоне, і слых ягоны крануў срабрысты гук Боскага голасу.

Выраб званоў у Беларусі сягае ў далёкую даўніну, у часы прыняцця хрысціянства. Першыя летапісныя звесткі, якія дайшлі да нас, сведчаць пра тое, што ва ўсходнім славянстве адлівалі званы тагачасныя полацкія майстры. Яшчэ пры Усяславе Чарадзеі ў Полацкім княстве ставіліся вежы, якія разносілі па наваколлі чарадзейныя гукі званоў. І да сённяшняга часу гэтыя традыцыі працягваюцца. Звіняць жалобныя званы ў Хатыні. Узводзяцца храмы. Ставяцца помнікі, якія не абыходзяцца без гэтага сімвалічнага знаку. На поўную моц мусіць загучаць наш Звон Свабоды на плошчы Свабоды, дзе калісьці стаяла царква беларускіх святых. Пры аднаўленні гадзіннікавай вежы, на месцы, дзе цяпер Французская амбасада можна ўсталяваць гэты ўсебеларускі нацыянальны сімвал. З царкоўнай званіцы, ці з вежы мы пачуем чароўныя гукі нашага Звону. І гэта справа недалёкай будучыні.

Божа, звяртаемся мы да Цябе: хвала Табе, што ты даў нам сілы, моцы і веры здзейсніць задуманае, спраўдзіць наш беларускі Звон Свабоды, які будзе абуджаць нашых людзей ад летаргічнага сну,



каб адолелі яны абыякавасць і бязвер'е. А пляцы нашыя гулі, звінелі срэбнай хваляй Звана Свабоды, гналі з нашага дому ліхадзеяў, ілгуноў, далакопаў і забойцаў. З верай у гэта мы разам здзейснім запавет нашых слаўных продкаў.

2006 год – год Свабоды, год прэзідэнцкіх выбараў. Кожны беларус мусіць задаць сабе пытанне: які шлях абярэ наша краіна, ці пойдзе па шляху еўрапейскага цывілізаванага свету, ці да самаізаляцыі і так званага рынкавага сацыялізму. Беларускі народ зачакаўся свабоды. У краінах хрысціянскай цывілізацыі людзі традыцыйна шануюць і душою адчуваюць покліч звону. Сёння высілкамі натхнёных у змаганні за вольнасць людзей з адмысловага сімвалічнага металу адліты Звон Свабоды, на якім выяўлены нашы нацыянальныя святыні, біблейскія словы пра свабоду, пасланні нашых вялікіх продкаў: Льва Сапегі "Нічога ня маець быці дарожшага над вольнасьць", Кастуся Каліноўскага "Жыві ў свабодзе", Васіля Быкава "Толькі свабода". Маюцца быць выгравіраваныя словы з Біблії Ф.Скарыны і Устаўной граматы БНР ад 25 сакавіка 1918 года.

Аўтары ідэі і канцэпцыі аздаблення – мастак Аляксей Марачкін і скульптар Алесь Шатэрнік. Звон Свабоды будзе зваць нас, беларусаў, на Вялікае Веча, на нашыя плошчы, каб духоўна яднаць нацыю.

10 студзеня гэтага года адбылося паседжанне ініцыятыўнай групы па стварэнні і выкарыстанні Звана Свабоды. У яе ўвайшлі знаныя людзі Беларусі. Узначальвае групу акадэмік Радзім Гарэцкі. Было адзначана, што на выраб гэтага сакральнага сімвала адгукнуліся розныя людзі, паяднаныя адной ідэяй у імя свабоды. Прагучалі словы ўдзячнасці шматлікім ахвярадаўцам, сярод якіх Івонка Сурвіла, Святлана Алексіевіч, Аляксандр Казулін і шмат іншых.

Звонам Свабоды будуць адкрывацца найбольш значныя акцыі. Сёння ўзнікла тэрміновая неабходнасць аплаціць выдаткі на ўжо адліты Звон, а таксама на выраб для яго адмысловай канструкцыі. З гэтай нагоды ініцыятыўная група звяртаецца да грамадзян, неабыякавых да справы нацыянальнага яднання, дапамагчы ў гэтай годнай справе. Імёны фундатараў, па іхнім жаданні, будуць упісаны ў кнігу "Звон Свабоды".

**Кантактныя тэлефоны для ахвярадаўцаў: 284-50-12, 289-31-94, 210-13-93.**

*Наш кар.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





№ 4 (740) 25 СТУДЗЕНЯ 2006 г. Наша Слова

*Алесь Астроўскі*

# НАША МЭТА – БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАВА!

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Па-другое,** грамадства павінна ўспрымацца не простай сумай грамадзянаў ці грамадскіх груп, а іх сістэмай, аб'яднаных праз разнастайныя ўнутраныя сувязі ў адзіны агульнаграмадскі арганізм. Гэтым сувязям, цэласнасці грамадства павінна надавацца не меншае значэнне, чым самім грамадзянам. Сітуацыя выглядае прынцыпова так, як з жывым дрэвам. Мы часам бачым толькі яго крону – лісце. Але лісці дрэва могуць нармальна функцыянаваць дзякуючы таму, што звязаны праміж сабой і з глебай галінамі, каранямі, ствалом. Гэтыя структуры складаюць сістэму сувязяў такога арганізма, як дрэва. Грамадства – такі ж жывы арганізм. Толькі сістэма яго сувязяў з-за рухомасці людзей не так выразна бачна. Але гэта не азначае, што для нармальнага жыцця грамадства яго ўнутраныя сувязі патрэбны яму менш, чым карані ці галіны – дрэву. З дадзенага прынцыпу вынікаюць істотныя наступствы. Так, напрыклад, з пазіцый змястоўнай дэмакратыі мы не маем права гаварыць пра правы і свабоды асобы ў адрыве ад правоў і свабод усяго грамадства як цэласнай сістэмы, да якой належыць індывід. Пры гэтым індывід і грамадства ўзаемадзеюць як базавы і больш высокі ўзроўні сістэмы. Свабода грамадства (найвышэйшае) немагчыма без свабоды чалавека (базавае), але больш высокае ў норме кіруе базавым. Гэта значыць, што індывід, як элемент грамадства, мае права свабоднага выбару толькі ў межах, якія неабходны для абароны ўмоў існавання і прагрэсіўнага развіцця ўсяго грамадства. Карацей, як частка грамадства, чалавек мае поўнае права на "свабоду для...", свабоду стварэння, а не на "свабоду ад...", свабоду разбурэння.

**Па-трэцяе**, любое нацыянальнае грамадства – гэта не абстрактнае паняцце, а рэальная, якасна своеасаблівая, гістарычна складзеная, натуральная частка агульналюдскай цывілізацыі. Яно мае свае ўласныя і канкрэтныя гісторыю, культуру, мову, нацыянальныя сімвалы, традыцыі (у тым ліку рэлігійныя), фальклор, светагляд, генафонд, сваю этнічную тэрыторыю і г.д. – усё тое, што з'яўляецца яго святымі каштоўнасцямі. Яны надаюць нацыянальнаму грамадству права быць гістарычным суб'ектам у агульналюдскай гісторыі. Змястоўным ядром, вакол якога арганізуецца ўсё грамадства і без якога яно не можа існаваць, з'яўляецца адпаведны карэнны этнас. Для яго святыя нацыянальныя каштоўнасці з'яўляюцца натуральнымі. Таму менавіта народ у межах сваёй этнічнай тэрыторыі (асабліва калі яна супадае з тэрыторыяй дзяржавы) з'яўляецца галоўным гаспадаром, да якога могуць далучацца прадстаўнікі іншых народаў, але толькі, калі яны не будуць абмяжоўваць далейшы прагрэс карэннага народу. Пры гэтым не важна, якую частку грамадства складаюць прадстаўнікі карэннага этнасу – амаль 82%, як у нас па афіцыйных дадзеных апошняга перапісу, ці 8,2%, ці дзе-небудзь яшчэ. З дадзенага прынцыпу вынікае, напрыклад, такое наступства: у Беларусі змястоўным дэмакратам не можа быць той, хто ігнаруе беларускую мову для станаўлення нашай дэмакратыі, хто замест будучыні канкрэтна беларускага народу гатовы змагацца толькі за правы "человека вообще". Такі чалавек ёсць альбо агент імперскіх сіл, альбо дэмакрат абстрактны, "вообще демократ", што, як паказвае наша палітычная практыка, амаль тоесна.

**Чацвёртае.** У час кіравання грамадствам павінны рэалізоўвацца не столькі суб'ектыўныя пажаданні асобных людзей ці груп, а аб'ектыўныя інтарэсы ўсяго грамадства. Апошнія могуць не ўсведамляцца грамадзянамі як нешта важнае для іх. Аб'ектыўныя інтарэсы грамадства, як правіла, лепш усведамляюцца нацыянальнай элітай. Яе прадстаўнікі заўсёды будуць настойваць на захаванні ўсёй сістэмы нацыянальных каштоўнасцяў – і тых, што звязаны з мінулым, і тых, што скіраваны ў будучыню. Розніцу паміж суб'ектыўнымі і аб'ектыўнымі інтарэсамі можна прадэманстраваць на прыкладзе. Так, большасць дзяцей часта эмацыйна не хацела б хадзіць у школу. Але праз шмат гадоў, атрымаўшы адукацыю і стаўшы дарослымі, яны, як правіла, з удзячнасцю ўспамінаюць і бацькоў, і настаўнікаў, якія прымушалі іх вучыцца. Цяпер, дарослыя, яны сталі разумець, што ў іх аб'ектыўных інтарэсах было (!) атрыманне ведаў і навыкаў, неабходных для дарослага жыцця. У адрозненні ад нацыянальнай эліты "демократы вообще", успрымаючы палітыку, як барацьбу маніпулятыўных тэхналогій на агульнаграмадскім фоне, любяць заяўляць аб палітычнай неактуальнасці ўсяго, што "не воспринимается обществом". У нашай сённяшняй рэчаіснасці гэта датычыць, напрыклад, беларускай мовы. Маўляў, "народ ее не воспринимает", таму мы, маўляў, не павінны ставіць яе ў якасці мэты нашай палітычнай барацьбы. Не, даражэнькія. Па-першае, вельмі нават успрымае (хто рацыянальна, а хто на інтуітыўным узроўні). А, па-другое, беларуская мова належыць да неаспрэчных аб'ектыўных каштоўнасцяў нашага народу. І тое, што яна знішчалася расейскай імперскай бюракратыяй на працягу апошніх 200 гадоў, нічога не мяняе ў гэтым факце. У гэтай спрэчцы пазіцыя "демократов вообще" выглядае прыкладна так: злачынца, які згвалціў жанчыну – гэта гвалтаўнік, а той жа злачынца, які захапіў жанчыну, зацягнуў яе на хутар, схаваў у асклеп і там утрымлівае на ланцугу і гвалціць на працягу гадоў – гэта ў іх уяўленні не гвалтаўнік, а законны муж (?!). Поўны абсурд. Кожнаму змястоўнаму дэмакрату гэта відавочна. Таму, выкарыстоўваючы вобраз школы, мы заўсёды можам сказаць: гэта вы сваіх дзяцей, "вообще демократы", можаце ў школу не вадзіць, а нашых беларускіх дзяцей – абавязаны. Ды і школа для нашых дзяцей павінна быць, калі не лепшая ў свеце, дык хоць бы не горшай за іншыя!

**Пятае.** Улады з'яўляюцца неад'емнай часткай грамадства – фрагментамі адзінай цэласнай сістэмы, як і іншыя грамадскія групы (дарэчы, улада – гэта абстракцыя; канкрэтна ёсць людзі, надзеленыя ўладай – улады). Як кампанент сістэмы большага маштабу і больш высокага ўзроўню (усё грамадства), улады па сваёй ролі ў грамадстве з'яўляюцца другаснымі, падпарадкаванымі грамадству, прычым, не толькі ў час выбараў, а і паміж імі. Фармальна кіруючы грамадствам, улады самі павінны знаходзіцца пад змястоўным кіраўніцтвам аб'ектыўных агульнаграмадскіх інтарэсаў (гл. малюнак), якія, нагадаю, заключаюцца ў стварэнні ўмоў для максімальнага раскрыцця стваральнага патэнцыялу ўсяго грамадства, у яго пастаянным натуральным гарманічным прагрэсіўным перспектыўным развіцці.




**Шостае.** У змястоўна дэмакратычным грамадстве павінна прысутнічаць (быць літаральна ўзаконенай) аб'ектыўная ацэнка дзейнасці людзей. Такая ацэнка павінна адбывацца праз супастаўленне кірунку і вынікаў дзейнасці кожнага чалавека з аб'ектыўнымі інтарэсамі ўсяго грамадства. Менавіта з дадзенага супастаўлення вынікае з'ява сацыяльнай справядлівасці, як прамапрапарцыйнасць паміж асабістым укладам чалавека ў развіццё грамадства (з аднаго боку) і ўзроўнем (матэрыяльным, духоўным) яго жыцця (з другога боку). Ступень вырашанасці дадзенага пытання кардынальна ўплывае на тэмпы тэхналагічнага і гуманістычнага прагрэсу грамадства, што, натуральна, уваходзіць у яго аб'ектыўныя інтарэсы.

**Сёмае.** З пазіцый змястоўнай дэмакратыі ўзаемаадносіны паміж рознымі грамадствамі і іх дзяржавамі павінны адбывацца на прынцыпах узаема- і роўнакарыснага, гарызантальнага супрацоўніцтва. Практычнай мадэллю такіх узаемаадносін з'яўляюцца дачыненні гаспадара дома і госця. Культурны гаспадар павінен быць гасцінным. Але і госць павінен паважаць правілы жыцця гаспадара ("у чужы манастыр са сваім статутам не лезь"). Калі яму нешта не падабаецца, ён можа добразычліва запрапанаваць гаспадару іншыя падыходы альбо пакінуць дом гаспадара. Культурны госць ніколі не будзе навязваць свае жаданні, правілы, сваё светабачанне гаспадару. Асаблівасць нармальных міждзяржаўных зносін у параўнанні з апісанай мадэллю заключаецца толькі ў тым, што гаспадаром дзяржавы з'яўляецца адпаведны народ, яго домам – тэрыторыя яго дзяржавы, а гасцьмі – любыя людзі ці групы людзей, якія апынуліся па тых ці іншых прычынах на этнічнай тэрыторыі ці ў дзяржаве адпаведнага народу-гаспадара.

Уяўленне аб змястоўнай дэмакратыі дае магчымасць пры параўнанні з рэальнай сітуацыяй у кожным канкрэтным выпадку бачыць і недахопы палітычнага кіравання, і прычыны гэтых недахопаў. Так, відавочна, што ў сучаснай беларускай "супердэмакратыі" абсалютна не выконваецца ніводнага пункта, а ў сучаснай ліберальнай дэмакратыі не выдзяляецца змест дзяржавы, грамадства ўспрымаецца абстрактна, як простая сума грамадзян і перыядычна другасна адносна ўлады, пытанні сацыяльнай справядлівасці і нормы міжнацыянальных адносін увогуле амаль не ўздымаюцца, а ў працэсе палітычнай практыкі культывуюцца і актыўна эксплуатуюцца суб'ектыўныя інтарэсы і меркаванні людзей, якія ім папярэдне могуць навязвацца.

Канешне, змястоўная дэмакратыя ў поўным аб'ёме нідзе не дасягнута. Яна ёсць больш мэта, у кірунку якой ідзе прагрэс чалавецтва і да якой варта імкнуцца. Яе станаўленне адбываецца ў цяжкай, вязкай, штодзённай, нярэдка ахвярнай барацьбе. Але ў тым аб'ёме, у якім змястоўная дэмакратыя будзе зрэалізавана, яна здольна забяспечыць далейшае гуманістычнае развіццё чалавецтва, дазваляе практычна змагацца за рэалізацыю ў грамадстве прынцыпу сацыяльнай справядлівасці, стварыць значна лепшыя, чым сёння, умовы для здзейснення людзьмі сваіх правоў і свабод, у тым ліку самай галоўнай каштоўнасці – максімальнага раскрыцця ўласнага жыццёвага патэнцыялу. Сёння на змястоўную дэмакратыю найбольш накіраваны некаторыя еўрапейскія краіны, у т.л. краіны Балтыі.

Нават ў выглядзе мэты змястоўная дэмакратыя выконвае вельмі важную функцыю – можа выступаць у якасці адной з ідэалагічных апор для ўсіх сапраўдных патрыётаў, універсальных нацыяналістаў, сапраўдных інтэрнацыяналістаў, гуманістаў і, як цяпер выразна відаць... для сапраўдных дэмакратаў.

Як любы інтэнсіўны прагрэс, працэс прагрэсіўнага развіцця палітычнай арганізацыі грамадства спыніць немагчыма. Аднак, чаму ж ён адбываецца так марудна, з такімі драматычнымі спадамі? Чаму, калі дакладна ўяўляюцца ўзоры, іх так цяжка дасягнуць на практыцы?

Справа ў тым, што ёсць моцныя, хутка зарганізаваныя сілы, якія не зацікаўлены ў наступленні лепшай, больш светлай будучыні. Гэтыя сілы дэструктыўныя, бо могуць існаваць толькі за кошт паразітавання на працы іншых людзей. Прагрэсіўныя змены, скіраваныя на больш дасканалую арганізацыю грамадства, здольны значна абмяжаваць умовы існавання паразітаў (як у нашым арганізме здаровая імунная сістэма хутка абмяжоўвае развіццё паразітычных вірусаў, мікробаў, глістоў, а затым і ўвогуле многіх з іх вынішчае). Таму сацыяльныя паразіты тайна змагаюцца супраць гуманістычнага прагрэсу (часта не закранаючы тэхналагічны) як унутры розных грамадстваў, так і ўсяго чалавецтва. Вобразна гэта можна ўявіць як барацьбу глістоў супраць распрацоўкі медыцынскай навукай і ўкаранення практычнай медыцынай супрацьглістных прэпаратаў...

Сярод гэтых соцыяпаразітыных сіл галоўная – безнацыянальная бюракратыя.

### *Універсальны сацыяльны паразіт – закляты вораг дэмакратыі*

Каб рэалізоўваліся на практыцы прынцыпы змястоўнай дэмакратыі, найперш трэба, каб была забяспечана адэкватнасць паміж узроўнем дзяржаўных пасадаў і ведамі, навыкамі, узроўнем культуры, светагляду і г.д. тых людзей, якія дадзеныя пасады займаюць. А якія якасці павінны прысутнічаць у чалавека ў першую чаргу, каб дадзеную адпаведнасць забяспечыць?

Самае галоўнае – гэта не "прафесіяналізм" і не "досвед працы на кіраўнічых пасадах", а ўзровень светаўспрыняцця. Першыя дзве якасці часта прапагандуюцца бюракратыяй для таго, каб ёй было лягчэй выкарыстоўваць у кадравай палітыцы толькі прадстаўнікоў сваёй кланавай калоды. У характарыстыцы апошняй якасці ўсё залежыць ад таго, часткай чаго ўспрымае сябе чалавек, што лічыць "непасрэдна сваім", а што ўспрымае чужым "вонкавым асяроддзем".

Так, калі чалавек здольны ўспрымаць толькі свае асабістыя патрэбы, а ўсю іншую рэчаіснасць адчувае толькі асяроддзем, прызначаным для чарпання адтуль рэсурсаў і задавальнення сваіх персанальных патрэб – ён эгаіст. У норме яму можна давяраць кіраваць толькі самім сабой (самому сабе гатаваць ежу, прыбіраць і рамантаваць уласнае жыллё, чысціць зубы перад сном і г.д.). Калі ж чалавек з такім узроўнем светаўспрыняцця зойме нейкую пасаду (нават самую малую), ён будзе ўвесь час думаць толькі пра тое, як яе выкарыстаць у сваіх асабістых інтарэсах – як правіла, гэта значыць выкарыстаць падначаленых яму людзей.

*(Працяг у наст. нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ТБМ віншуюць



Зь верай і надзеяй!

Дарагі спадар Алег!

Віншую Вас з Сьвятамі і жадаю
ўсяго найлепшага ў Новым 2006-м годзе.

Прашу перадаць віншаванні ўсім сябрам.

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвіла.



*Place de la Liberté, lithographie de B. Lavergne, 1840*




*Place de la Liberté, 2006*

**Паважаныя спадарыні і спадары!**

Просім Вас прыняць віншаванні і найлепшыя пажаданні з нагоды Калядаў і Новага года 2006.

Няхай надыходзячы год прынясе Вам здароўе, дабрабыт і поспех ва ўсіх Вашых справах і пачынаннях.

**Аддзел супрацоўніцтва і культуры Амбасады Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.**

## *Шаноўнае спадарства!*

**Сакратарыят ТБМ выказвае шчырую падзяку ўсім нашым сябрам і добразычліўцам, чые віншаванні паступілі ў адрас ТБМ, тым, чые з нейкай нагоды не дайшлі, а таксама тым, хто згадаў нашую арганізацыю добрым словам па тэлефоне, пры сустрэчы ці проста ў думках.**

**Мы ўпэўненыя, што ўсё добрае, што было сказана ў гэтыя святыя дні ў наш адрас, быдзе пачутае ў вышніх сферах, і гэты год будзе для нас такім, якім вы пажадалі, і мы разам здзейснім тое, што было згадана.**

# РАДА ТБМ

Чарговае паседжанне Рады ТБМ адбудзецца ў Менску 29 студзеня 2006 года.
Рэгістрацыя ў сядзібе ТБМ на Румянцава,13 з 10.00 да 11.00.

**Павестка дня:**

1. Абмеркаванне і зацвярджэнне плана работы ТБМ на 2006 г.
2. Аб унясенні змен у Статут ТБМ у адпаведнасці з новай версіяй Закона аб грамадскіх аб'яднаннях.
3. Аб зменах у памерах складак за 2006 г.
4. Рознае.

# ВЫДАЎ ЛОГВІНАЎ

Парадаваў Ігар Логвінаў, які выдаў новую кнігу Вінцэся Мудрова (нар. у 1953 у Полацку), якую склалі ўспаміны, эсэ і фантасмагорыі. Адзначана, што практычна ўсе яны друкаваліся ў незалежніцкім перыядычным друку. Бязумоўна, што не ўсе чыталі гэты друк у сярэдзіне 90-х гадоў. Я сутыкнуўся з творчасцю пісьменніка ўпершыню, але імя мне было вядома...

Літаратурна-мастацкае выданне складаюць 19 твораў. Кніга мае назву "Ператвораныя ў попел". Менавіта гэты твор найбольш запамінальны з 19. У ім ідзе гаворка пра аўтабіяграфічныя падзеі ў жыцці аўтара 1967-1971 гг. Шмат цікавага даведваешся пра гады, у якія не жыў сам.

Адметнымі з'яўляюцца творы "Валеры Абадзінскі", "Конская сіла", "Хрушч". У адным з твораў кнігі спадар Мудроў кліча старэйшага за сабе на 6 гадоў славутага гісторыка Анатоля Сідарэвіча "дзядзькам", што трохі смешна, калі абодва амаль равеснікі... Цікавы змест апавядання "Каханьне Леві Штраўса". Асабіста мне кніга вельмі спадабалася, бо дае ўяўленне пра жыццё "нефармалаў" іншага пакалення. У зборніку ўзгадваецца шмат прозвішчаў нашых вядомых сучаснікаў: Алег Мінкін, Алег Бембель, Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі і іншыя.

Дызайн вокладкі з густам выканаў С. Жудановіч. На ёй змешчаны словы Алеся Асташонка, прозвішча якога бачу, калі праходжу ўздоўж калумбарыя менскай Кальварыі, бо жыў праз 500 м. ад дадзенай установы.

Наклад кнігі "Ператвораныя ў попел" 700 асобнікаў. Думаю, што зборнік полацкага аўтара будзе добрым падарункам як сучаснай беларускай моладзі, так і тым, хто вырас у савецкія часы на музыцы Абадзінскага, насіў забароненыя джынсы і любіў гумовую жуйку.

Барацьбу з апошняй застала і сучаснае пакаленне 30-і гадовых хлопцаў і дзяўчат на пачатку 80-х гадоў. Наогул адзначу, што кніга Вінцэся Мудрова – праект удалы. Абавязкова ў бліжэйшы час набуду яшчэ некалькі асобнікаў кніжнай навінкі ў падарунак сябрам і знаёмым.

***Аляксей Шалахоўскі,***
***старш. суп. "Гісторыя".***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўнае спадарства, у кожнага, хто спазніўся падпісацца на нашую газету ёсць магчымасць зрабіць гэта цяпер і падпісацца на 4 месяцы (з красавіка па чэрвень).

Будзьце з намі, і вы будзеце ў цэнтры падзей, якія адбываюцца ва ўсім беларускамоўным спектры Беларусі і замежжа.

**РП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі / пераадрасоўкі **5080** руб. / руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2006 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Алесь Петрашкевіч*

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.

*Шаноўныя чытачы! Выдатны беларускі пісьменнік Алесь Петрашкевіч напісаў цыкл гістарычных п'есаў, якія адлюстроўваюць мінуўшчыну нашага краю з часоў Рагнеды да найноўшых часоў. Дзесяць з іх "Крыжовы шлях на Грунвальд", "Расплата за здраду", "Каралеўска - царская пастка", "Рупнасць дзяржаўцы", "Час усё адкрые", "Развітанне з Радзімай", "Рыцар Свабоды", "Апошні збройны чын", "Наканавана быць пракрокам", "Дагарэла свечачка" ўвайшлі ў кнігу "Здрапежаная зямля", што пабачыла свет у 2003 годзе. Частку з гэтых п'есаў ("Час усё адкрые", "Развітанне з Радзімай", "Рыцар Свабоды", а таксама іншыя) газета "Наша слова" друкавала ў ранейшыя гады. І вось аўтар ласкава прапанаваў нам дзве новыя п'есы "Вымушаная авантура" (часы 1600-1606 гадоў) і "Белорусский вопрос" (1919 г.). Рэдакцыя атрымала першую з п'есаў і мы адразу ж прапануем яе вашай увазе.*



### Дзейныя асобы:

***Сапега Леў** — канцлер Вялікага Княства Літоўскага, больш за 40 гадоў.*

***Дзмітрый** — яго выхаванец, прэтэндэнт на царскі пасад, 19—25 гадоў.*

***Марфа** — маці царэвіча Дзмітрыя, за 60 гадоў.*

***Чалавек Сапегі**, 35 гадоў.*

***Радзівіл Крыштаф** — апякун Сапегі, прадстаўнік «нескаранованых каралёў», 21 год.*

***Жыгімонт III** — кароль Польшчы, вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, каля 40 гадоў.*

***Рангоні Клаўдзій** — граф, папскі нунцый у Польшчы, 40 гадоў.*

***Мнішак Ежы** — ваявода сандамірскі, староста львоўскі, за 60 гадоў.*

***Марына (Марыана) Мнішак** — яго дачка, 18—23 гады.*

***Гадуноў Барыс** — правіцель, а затым рускі цар, 54—59 гадоў.*

***Фёдар** — яго сын, 13—15 гадоў.*

***Мар'я** — жонка Барыса Гадунова, маці Фёдара, царыца, 40 гадоў.*

***Іоў** — патрыях усяе Русі, 50 гадоў.*

***Шуйскі Васілій** — князь, прыбліжаны Гадунова, 54—59 гадоў.*

***Галіцын Васілій** — князь, баярын, ваявода, каля 40 гадоў.*

***Тацішчаў Міхайла** — думны дваранін, за 40 гадоў.*

***Мсціслаўскі Фёдар** — князь, баярын, ваявода, каля 50 гадоў.*

***Басманаў Пётр** — ваявода, каля 30 гадоў.*

***Уласьеў Афанасій** — думны дзяк, пасол, каля 30 гадоў.*

***Акінфіеў Грыгорый** — ваявода Дзмітрыя, да 30 гадоў.*

***Карэла** — атаман данскіх казакоў, за 30 гадоў.*

***Валуеў Грыгорый** — сын баярскі, да 30 гадоў.*

***1-ы рыцар.***

***2-і рыцар.***

***Дваране думныя, князі, баяры.***

***Змоўшчыкі.***

### Дзея першая

*Тэатральная дзея патрабуе сцэны з кругам.*

I

*На прыёме ў караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III канцлер Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Леў Сапега.*

**Жыгімонт** *(незадаволена)*. Ты зноў за сваё, канцлер?..

**Сапега.** Я, ваша мосць, за наша, за Рэч Паспалітую, якую лічу годнай рэспублікай абодвух нашых народаў. Але *(падкрэслена)* над нашай рэспублікай...

**Жыгімонт** *(перапыняе)*. Нам больш па душы, калі *(педаліруе)* нашу рэспубліку называюць каралеўствам, а яшчэ лепш Каронаю. Каронаю караля Жыгімонта III.

**Сапега.** Я гэта разумею, ваша каралеўская вялікасць, але тым не менш і не першы раз настойваю на тым, што без аб'яднання славянскіх дзяржаў і народаў Карона Польская і Вялікае Княства Літоўскае могуць апынуцца, а дакладней, немінуча апынуцца перад катастрофай. А ваша вялікасць...

**Жыгімонт.** Толькі не трэба палохаць нашу вялікасць...

**Сапега.** Ратуй мяне, пан Бог, але ж у свеце складваюцца моцныя кааліцыі: каталіцкая ліга на чале папы рымскага і Габсбургаў; саюз пратэстанцкіх краін; турэцкія султаны аб'ядноўваюць мусульманскі свет. Прыкрываючыся рэлігійнымі ідэямі гэтыя саюзы і кааліцыі найперш рупяцца пра магчымасці пашырэння сваіх тэрыторыяў за кошт суседзяў. А яны ў нас і з Поўдня, і з Захаду. А як на Поўначы шведскі герцаг Карл, які няхай бы тое з'еў, што вашай мосці зычыць, ужо ўступіў у хаўрус з каралём дацкім і абавязкова, з-за польскай недальнабачнасці, аб'яднаецца сіламі з Масковіяй. Дазвольце запытацца, што тады будзем рабіць мы, або той, хто ў Польшчы лічыць сказанае малазначным?.. Зноў зрываць ці адкладваць перамовы з маскоўскімі пасламі? З Барысам Гадуновым? Знаходзіцца і надалей у стане вайны з яго ардой?!

**Жыгімонт** *(крыху мякчэй)*. Але ж сейм лічыць, што становішча Рэчы Паспалітай не такое ўжо безнадзейнае, каб выпрошваць міру ў Барыскі Гадунова.

**Сапега.** Я гэта ведаю, як і тое, што Польшчы заўсёды шкодзіла залішняя самаўпэўненасць і фанабэрыя. А сенатарам не варта было б забываць, што славянская Масковія дастаткова моцная не толькі сама па сабе, але і тым, што ў яе пад рукой цяпер і Залатая Арда, і татарскі Крым. І нам вырваць бы з-пад яе уплыву хоць крымчакоў і шведаў. А яшчэ б лепш, уцягнуць саму Масковію ў славянскую лігу, у надзейны саюз з Каронай і Вялікім княствам! Да слова, маю звесткі, што Карл шведскі ўжо авалодаў Фінляндыяй і войскі яго паявіліся ў Эстоніі, а валашскі гаспадар Міхай захапіў Сяміграддзе і ўвайшоў у зносіны з Гадуновым...

**Жыгімонт** *(крыху разгублена)*. Што ж вы караля не інфармуеце пра такія падзеі?..

**Сапега.** Дзякуй пану Богу, надарылася размова, дык я і стараюся. А то ваша вялікасць усё занятая...

**Жыгімонт** *(занепакоена)*. Выходзіць, мы свой шанец на саюз з Масковіяй упусцілі?..

**Сапега.** Яшчэ не ўсё згублена.

**Жыгімонт.** Што канцлер мае на ўвазе?

**Сапега.** Адну «дробязь», ваша мосць: заключэнне вечнага міру і надзейнага саюза Кароны польскай, Вялікага Княства Літоўскага і Царства рускага.

**Жыгімонт.** Даўся вам гэты саюз...

**Сапега.** Мір і саюз дасць магчымасць яшчэ і эканамічнага прасоўвання на Усход, які валодае незлічонымі багаццямі... Ліцвінская шляхта, між іншым, настойліва просіць паноў-раду разгледзець адносіны Рэчы Паспалітай абодвух народаў з Масковіяй на прадмет заключэння надзейнага міру. Яна то добра ведае, што ў выпадку чарговай вайны ці набегу-наезду першымі ўдар ад Масковіі і Швецыі прыме на сябе не Польшча, а Вялікае Княства. Так ці інакш, але расплочвацца за бяспечных палякаў, як заўсёды, давядзецца ліцвінам-беларусцам. І яны настойліва патрабуюць пасланца да Гадунова вялікае пасольства Рэчы Паспалітай.

**Жыгімонт.** Патрабуюць Радзівілы, і я гэта ведаю!

**Сапега.** І Радзівілы. А каб наш вялікі князь Жыгімонт III быў згаворлівым, усе мае землякі абяцаюць даць свае грошы на вайну за шведскую карону, якая па праву належыць вашай мосці.

**Жыгімонт.** Мудрыя твае землякі. Нам грошы на вайну абяцаюць, а для сябе міру з Масковіяй шукаюць.

**Сапега.** Мудрыя. Ад войнаў і спусташальных набегаў маскалёў змарыліся мае землякі да смерці. Толькі за часы царавання дэспатаў Івана III Васільевіча і Васіля III Іванавіча мы мелі два захопы маскавітамі Гомеля, шэсць аблог Амсціслава, сем аблог Оршы, восем — Віцебска, сем — Полацка, неаднаразовыя аблогі, штурмы, захопы і разбурэнні Турава, Койданава, Чачэрска, па тры-чатыры аблогі Менска, Барысава і Браслава. Чатыры разы разбуралася, выпальвалася і рабавалася Дуброўна. А спаленне Друі, Іказні, Крэўскага замка, Мазыра! І зноў аблогі Рагачова, Радамлі, Петрыкава, Наваградка. Набегі і неаднаразовыя вынішчэнні Копысі, Шклова, Прапошаска. Толькі Магілёў маскалі бралі, рабавалі, палілі і забівалі чатыражды. А колькі народу перабіта і ў няволю выведзена. А што пасля Івана ды Васіля тварыў на нашай зямлі чарговы дэспат-забойца Іван Жахлівы — розум халадзее! А нарэдка ж маскоўскія дэспаты ваявалі нас у хаўрусе, у змове з татарамі. Цяпер жа на нашу галаву такі ж тыран Гадуноў. Ці мы спынім яго вечным мірам і саюзам ці народ мой ужо не вытрымае перад гэтай Новай Ардой.

**Жыгімонт.** Мы разумеем цябе, канцлер. Радзівілы ціснуць на канцлера, канцлер ціснe на караля.

**Сапега.** Толькі таму, ваша мосць, што і Радзівілы і канцлер таксама ліцвіны-беларусцы.

**Жыгімонт.** Не спасылайся на Радзівілаў. Я і так падтрымаю... Аднаго цябе бачу, каму можна даручыць вялікае пасольства ў Маскву. І праект дамовы з Гадуновым нам па душы... а ў поспех не веру. І Масковіі не веру. Але ў дарогу збірайся... Да Івана Жахлівага ты некалі ездзіў, а сустрэўся толькі з яго сынам-недалэнгаю. А цяпер з новым тыранам сустрэнешся, а можа толькі з яго сынам-падлеткам. Не ведаю якога ён розуму... Усё, адпускаем цябе з мірам. І не сярдуй на караля. А то ў яго цярпенне можа скончыцца.

**Сапега** *(устае, кланяецца)*. Дзякуй вашай вялікасці.

II

*Сустрэча Сапегі з нешырокім колам думных дваранаў, князёў і баяраў — кляўрэтаў Гадунова.*

*На сцэне высокае крэсла, падобнае на трон. Каля сцен справа і злева груваcткія лавы. Дваране, князі, баяры займаюць першы рад перад сцэнай. З'яўляюцца Леў Сапега і Васіль Шуйскі. Да іх падыходзяць Васіль Галіцын і Міхайла Тацішчаў. Стрымана вітаюцца з Сапегам кіўком галавы.*

**Галіцын** *(з іроніяй)*. Як пачувае сябе на Маскве вялікі пасол яго каралеўскай мосці?

**Тацішчаў** *(з усмешкай)*. І наогул, як у гасцях жывецца-можацца?

**Сапега** *(стрымана)*. Дзякуем за ўвагу. Жывецца-можацца вашымі малітвамі. Прыехалі, як вам, відаць, вядома, у палове кастрычніка, да снежня дажылі за глухім плотам, пад запорамі і пры варце, як у турме. Ні да нас ніхто, ні мы нікуды.

**Шуйскі.** Рупнасць аб бяспецы вялікага пасольства ў нас перш за ўсё.

**Сапега.** Мы так і зразумелі. Асабліва пасля таго, як вакол дома, дзе паслоў заперлі, гасцінныя гаспадары паклалі столькі саломы, што мы не маглі не здзівіцца навошта такая рупнасць. Здзіўленне наша прайшло адразу, як ноччу некалькі двароў, што былі побач з нашым, згарэлі. Падумалася, крый Божа, загарымся, то не толькі ўратаваць рэчы, але і самім не проста будзе выскачыць жывымі. Словам, шчыра дзякуем за гасціннасць і турботы. Калі і надалей так працягнецца, то вымушаны будзем самі падумаць пра сябе. А дробная тыранія з боку — на людзей слабавольных, а не на Льва Сапегу і яго пасольства.

**Тацішчаў.** А ты чаго чакаў? Наша дзяржава з вашай у стане вайны...

**Сапега.** Мы чакалі хоць бы элементарнай прыстойнасці ў зносінах дзяржаў і іх пасольстваў.

**Шуйскі** *(паблажліва)*. Усё ўладзіцца, канцлер.

**Галіцын.** Перамовы пачнём, а можа і перамір'е заключым...

**Тацішчаў.** Калі ты сябе хораша паводзіць будзеш.

**Сапега.** А дзяк думны калі-небудзь удзельнічаў у перамовах паміж дзяржавамі, якія паважаюць і сябе і сваіх гасудароў?

**Тацішчаў.** А што?

**Сапега.** Тыкаешся з вялікім каралеўскім і велікакняскім пaслом як з субутэльнікам.

*Уваходзіць Цырымоніймайстар. Князі, дваране думныя і дзякі ўстаюць.*

**Цырымоніймайстар** *(урачыста)*. Сын вялікага гасудара, цара і вялікага князя Барыса Феодаравіча ўсяя Русі самадзержца царэвіч Феодар Барысавіч жалуе вялікае пасольства сваёй прысутнасцю. *(Ударае посахам у падлогу.)*

**Сапега** *(Шуйскаму.)* Дазвольце, але ж вы маіх паслоў сюды не запрасілі і сваіх не прывялі?

**Шуйскі.** Гэта папярэдняя, прамежкавая сустрэча набліжаных да цара з вялікім паслом. А з царом будзе пры поўным складзе пасольстваў нашых дзяржаў.

**Сапега.** Вялікае пасольства Рэчы Паспалітай абодвух народаў прыехала ў Маскву весці перамовы з вялікім князем Барысам Гадуновым, а не з яго непаўналетнімі сваякамі.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



*Алесь Петрашкевіч*

# ВЫМУШАНАЯ АВАНТУРА

## *Версія гістарычнай драмы. Час падзей 1600—1606 гг.*

*Уваходзіць царэвіч Фёдар. Ён чуе словы Сапегі.*

**Фёдар** *(сеўшы ў крэсла).* У цяці на ножцы пальчык разбалеўся і ён загадвае князям, дваранам, баярам і дзякам думным весці перамовы з вялікім паслом і папярэдне паслухаць чаго ён хоча.

**Сапега.** Мы гэтаму рады, для таго і прыехалі, а не для таго, каб ляжаць і нічога не рабіць. І хоць гэта яшчэ не перамовы, я выкарыстаю прысутных асоб з бліжэйшага акружэння вашага гасудара і прадстаўлю нашы прапановы не аб пераміры паміж войскамі, а ўмовы міру, і добра б міру вечнага паміж нашымі славянскімі народамі.

*Актыўнае ажыўленне прысутных дваран, князёў, думных дзякоў.*

**Шуйскі.** Перш чым ставіць умовы царству нашаму, Рэч Паспалітая і яе кароль павінны прызнаць царскі тытул за нашым вялікім гасударом Барысам Фёдаравічам, так як яшчэ Уладзіміра Манамаха прызналі царом царградскія імператары і на Успенскім саборы ён быў каранаваны чатырма патрыярхамі.

**Сапега.** Так то Манамах. А пасольства наша мае пры сабе граматы маскоўскіх уладароў, дзе яны і пасля Манамаха не пісаліся царамі. Пра што ж тады размова?

**Галіцын.** Калі кароль і вялікі князь Жыгімонт не прызнае за гасударом нашым царскі тытул, то і цар Барыс Фёдаравіч не прызнае яго каралём.

*Дваране, князі, баяры і дзякі думныя бурна падтрымліваюць Галіцына.*

**Сапега.** Наш кароль і вялікі князь патомны ўладар і ні ў кога не выпрошвае сабе тытулаў. Яны для яго прыроджаныя.

*Дваране, князі, баяры і дзякі думныя пратэстуюць.*

**Тацішчаў.** За такі нахабны адказ твой, канцлер, мы вас вайной прымусім прызнаць за вялікім князем нашым цэсарскі тытул!

*Дваране, князі, баяры і дзякі думныя падтрымліваюць Тацішчава.*

**Сапега.** Вайну вы распачаць можаце, але ж канец вайны ў руках боскіх... А мы з вамі славяне, хрысціяне, Бога славім аднаго і адзін гонар і хвалу яму аддаем. Хіба гэтага мала, каб дамовіцца аб міры і згодзе? Слушным было б і манархаў і панствы нашы ў вечную дабрачыннасць прывесці. Каб паміж сабою міласць і згоду вечную ўзялі і супраць усіх непрыцеляў брацтва мелі. З чыстым сумленнем прапаную, каб у вашых і нашых сэрцах праўдзіва прыняць гэту згоду і саюз.

**Тацішчаў.** Ды ладна табе ўжо. Валі, прапаноўвай свой фарысейскі саюз-згоду, калі прыехаў, а то потым скажаш, што цябе тут слухаць не сталі.

**Шуйскі.** Яно і цікава, як каралеўскі пасол паміж намі мір бачыць...

**Сапега** *(стрымана, спакойна, упэўнена).* Першая ўмова наша з вамі міру вечнага *(зрэдку карыстаецца напісаным):* Абодвум вялікім гасударам — Вялікага Княства Маскоўскага...

*Голас баярына: «Царства, царства рускага, а не княства маскоўскага».*

Каралеўства Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага быць паміж сабою ў любасці і вечнай прыязнасці...

*Смех княжацка-баярскай масоўкі.*

... а таксама панам радным і ўсім станам духоўным і свецкім кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага з баярамі думнымі і з усімі чынамі вялікага дзяржавы Уладзімірскай і Маскоўскай і іншых быць у вечнай, непадзельнай любасці братэрскай,

*Рогат княжацка-баярскай масоўкі.*

як людзям адной веры хрысціянскай і народа славянскага.

*Голас баярына: «За каго нас тут прымаюць?»*

Умова другая: Абодвум вялікім гасударам мець адных ворагаў і сяброў.

Трэцяя ўмова: Ніякіх дамоў, перамір'яў і хаўрусаў вялікія гасудары на шкоду адзін другому заключаць не будуць,

*Голас з масоўкі: «У Сігізмунда вашага дазволу пытацца будзем».*

ва ўсе дамовы, перамірыі і саюзы будуць уваходзіць не інакш, як наперад параіўшыся адзін з другім.

Чацвёртае: У выпадку нападу на аднаго з гасудароў, другі абавязаны абараняць яго.

**Тацішчаў.** Гэта каб мы, праваслаўныя, караля-каталіка абаранялі?! Зроду такога не было!

*Голас з масоўкі: «І не будзе!»*

**Сапега.** Дасць пан Бог, то і будзе. Пятае: Землі, здабытыя ў ворага агульнымі выселкамі, адыходзяць той дзяржаве, якая мела на іх даўнія правы.

**Тацішчаў.** Гэта яшчэ куды не ехала, раз вы ў Вялікім Княстве спрадвеку на нашай вотчыне і дзедзіне жывяце, вось і вымятайцеся мірна, па добраму ў сваё каралеўства паганае.

**Шуйскі.** Пачакай, Міхайла!..

*Рэпліка Тацішчава патанае ў шуме і смеху баярскай галёркі.*

**Сапега.** Тут ты ўвесь, думны дваранін Тацішчаў. *(Паўза.)* Спрадвеку, кажаш?! Ды таму і спрадвеку, што на сваёй зямлі, у сваёй Айчыне, а не вашай вотчыне, жывем. І жыцьме будзем! На носе засечку сабе зрабі пра гэта!

**Тацішчаў.** Вунь як загаварыў пасол каралеўскі!..

**Сапега.** І якраз таму і так, што Маскоўскае княства не атрымоўвала ярлык на спадчыну ад Русі Кіеўскай, а дзяржава Полацкая, незалежная, дарэчы, ад Кіева, існавала два стагоддзі да таго, як Масква на свет божы з'явілася, не кажучы ўжо пра яе дзяржаўнасць.

*Абурэнне баяр і дзякаў думных.*

Шостая умова...

**Фёдар** *(злазіць з крэсла, вінавата).* Па маленькаму мне... *(Выходзіць.)* І па большому таксама...

**Сапега.** Умова шостая: землямі, якія раней не належалі ні адной з саюзных дзяржаў, валодаць сумесна, ці раздзяляць пароўну.

*Адабральны шум масоўкі.*

Сёмае: Падданым абедзвюх дзяржаў вольна прыязджаць, уступаць у службу прыдворную, вайсковую і земскую: палякам і ліцвінам — у Маскве, рускім — у Каралеўстве і Вялікім Княстве.

Восьмае: Вольна ім уступаць адзін з другім у шлюбы.

Дзевятае: Палякі і ліцвіны ў Маскоўскай дзяржаве, рускія ў Польшчы і Вялікім Княстве могуць выслужваць вотчыны, маёнткі, купляць землі, браць пасаг.

**Галіцын.** Умова сёмая гадзіцца. А выслужваць і купляць землі не станем. Нашыя яны па праву вотчыны і дзедзіны.

*Галасы баяраў і дзякоў думных: «нашы гэта землі», «вотчынныя і дзедзечныя», «дзе рускі ратнік зрабіў вялікую патрэбу, там і ёсць маскоўская, руская зямля!»*

**Сапега.** Дзесятая ўмова: Жыхары Каралеўства і Вялікага Княства вольны прысылаць дзяцей сваіх навучацца і ў службу ў Маскоўскую дзяржаву і жыхарам апошняй — ва ўладанні нашы.

*Голас з масоўкі: «Не бываць таму ніколі!»*

**Тацішчаў.** І з якой гэта пары наша дзяржава апошняй стала?!

**Сапега.** Калі ваш гасудар палічыць патрэбным, ён у сваім тэксце дамовы аб саюзе паставіць першым не толькі сваё княства, але і думнага двараніна Міхайлу Тацішчава персанальна.

**Тацішчаў** *(без пачуцця гумару).* Пра тое і гаворка.

**Сапега.** Адзінаццатая ўмова: Тым рускім, якія прыедуць у Каралеўства польскае і Вялікае Княства Літоўскае для навукі ці для службы, вольна трымаць веру рускую...

**Галіцын.** Люба!

**Сапега.** ...а якія з іх паселяцца там, набудуць землі, такім вольна на сваіх землях будаваць цэрквы рускія.

**Тацішчаў.** Падтрымліваем.

**Сапега.** Тым жа правам карыстаюцца палякі і ліцвіны ў Маскоўскай дзяржаве, трымаюць веру рымскую і ставяць на сваіх землях цэрквы рымскія.

*Баяры і дзякі думныя літаральна ўзрываюцца абурэннем: стукаюць посахамі, тупаюць нагамі, выкрыкваюць: «Не дазволім!» «Не бываць таму!» «Бі паслоў!»*

*(Цярпліва перачакаўшы шум.)* Не трэба спяшацца, панове. Дванаццатая ўмова дае права гасудару і вялікаму князю Барысу Феодаравічу дазваляць у Маскве і па другіх мейсцах будаваць рымскія цэрквы для тых каталікаў, якія ў яго будуць у службе, для купцоў і паслоў польскіх і іншых каталіцкіх дзяржаў.

**Шуйскі.** А з якой халеры паслу Кароны польскай за іншыя няверныя дзяржавы рупіцца?

**Сапега.** На адной зямлі жывем і добра было б жыць ні як кот з сабакам, а ў міры і згодзе з усімі.

**Тацішчаў.** Не бывае так, пасол, ды і быць не павінна. Веры ў свеце не адзінакія.

**Сапега.** Веры сапраўды розныя, але ж Бог адзін на ўсіх і веры ўсе пад воляй яго. А трынаццатая ўмова забяспечвае купцам шлях чысты па землях дзяржаў саюзніці праз іх у іншыя дзяржавы; мыта ж застаецца старое. Па ўмове ж чатырнаццатай уцекачоў, зладзеяў, разбойнікаў, падпальшчыкаў і ўсялякіх злачынцаў выдаваць з абодвух бакоў. Па ўмове пятнаццатай заадно бараніць землі ўкраінныя ад татараў. Шаснаццатая і семнаццатая — абодва бакі павінны мець агульны флот на моры Літоўскім і на моры Вялікім. Манета павінна быць аднолькавая ў абодвух дзяржавах.

**Шуйскі.** Аднолькавая ці агульная манета?

**Сапега.** Аднолькавая, але ў кожнага свая. Кажуць, без сваёй манеты волі не бачыць... А ва ўмове васемнаццатай для мацнейшага злучэння нашых слаўных дзяржаў і для аб'яўлення іх вечнага саюзу перад цэлым светам павінны быць зроблены двайныя кароны.

**Шуйскі** *(здзіўлена).* Гэта як?..

**Сапега.** Адна паслом маскоўскім ускладаецца пры каранацыі на караля польскага і вялікага князя літоўскага, а другая паслом польскім ускладаецца на гасудара маскоўскага.

**Галіцын.** Гэта ўжо нешта наогул у свеце нечуванае, бо да гэтага часу кароны на гасудароў усюды ўскладаліся і ўскладаюцца не паслами чужых дзяржаў, а духоўнымі асобамі і сваімі... патрыярхамі, кардыналамі...

**Сапега.** Наша з вамі справа пасольская прапанаваць, а права прыняць рашэнне пакінем за патрыярхам маскоўскім і папам рымскім, як ім гасудароў нашых вянчаць.

**Шуйскі.** А пасол, часам, не намякае нам на аб'яднанне ў будучым часе нашай царквы праваслаўнай з вашай каталіцкай.

**Тацішчаў.** Адказвай і без маны!

**Сапега.** Не намякаю. Але ў душы ўпэўнены і перакананы, што калі б здарылася такое знаменне божае, вечны мір, пакой, і працвітанне на землях нашых наступілі б і без саюза, які мы прапануем.

*Шумяць і абураюцца баяры і дзякі думныя.*

**Шуйскі** *(падымае руку).* Прашу баяраў і дзякоў думных пацярпець, бадай што пасол яшчэ не ўсё сказаў...

**Сапега.** Не сказаў якраз галоўнага, асноўнага. Па ўмове дзевятнаццатай кароль у Польшчы выбіраецца па ўзгадненні з гасударом маскоўскім.

**Шуйскі** *(са здзекам).* Бачыце, як цікава?..

**Сапега.** Пункт дамовы дваццаты яшчэ цікавейшы: Калі б кароль Жыгімонт, па вашаму Сігізмунд, не пакінуў сына, то Каралеўства і Вялікае княства маюць права выбраць у каралі гасудара маскоўскага...

*Гул адабрэння з боку баяраў.*

які, зацвердзіўшы правы і вольнасці нашы, павінен жыць пачардзе два гады ў Каралеўстве і Вялікім Княстве і год у Маскве. А па смерці гасудара (артыкул дамовы дваццаць першы) сын яго пры ўступленні на пасад пацвярджае прысягаю наш саюз.

*Гул нейкай нерашучасці баяраў і дзякоў думных.*

**Тацішчаў** *(зацята).* Ты, пасол, нашага гасудара хаваць не спяшайся. І каб мы тут слоў такіх не чулі!

*Дзякі думныя і баяры падтрымліваюць Тацішчава.*

**Сапега.** Усе гасудары, на жаль, смяротныя, але ў вашага гасудара, дзякуй Богу, ёсць сын-спадкаемца, чаму мы рады. А вось па ўмове дваццаць другой, калі б у гасудара маскоўскага не засталося сына...

*Шолах страху з боку дваранаў, баяраў і дзякоў думных запаўняе паўзу.*

**Шуйскі, Галіцын, Тацішчаў** *(са страхам і амаль аднačасова).* Свят, свят! Чур, чур! Ціпун табе на язык!..

**Сапега.** ...калі б не засталося сына, то кароль Жыгімонт павінен быць гасударом Маскоўскім.

*Вяртаецца царэвіч Фёдар.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# ... СЕМ РАЗ ЛІДУ ЁН АДВЕДАЎ...




*Францішак Багушэвіч*

***У Лідзе выйшаў чарговы, ужо 31-шы нумар краязнаўчага, гістарычна-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец". У часопісе змешчаны цэлы шэраг краязнаўчых матэрыялаў, у тым ліку і артыкул Уладзіміра Содаля да 165-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча "... Сем раз Ліду ён адведаў...", які мы лічым мэтазгодным прапанаваць чытачам "Нашага слова".***

***"... Сем раз Ліду ён адведаў..."*** - гэты радок з вядомай паэмы Францішка Багушэвіча "Кепска будзе!" Ён пра прыёмнага бацьку сіраціны Аліндаркі, яго айчыма.

Аліндарка, як вядома, нарадзіўся дзесьці паблізу Абораў, з яго колішнім драўляным касцёлам. Гэта недалёка ад Маладзечна, пад Палачанамі. Але, як вынікае са зместу твора, далейшыя жыццёвыя Аліндаркавы шляхі-пуцявіны пралеглі праз Ліду і Лідчыну. Тут ён гадаваўся і рос. Спачатку беднага сіротку трошкі цётка падрасціла, а пасля якомусь чалавеку адпусціла за сына.

На Лідчыне Аліндарка перажыў самую вялікую драму свайго жыцця. Тут яго арыштавалі і пасадзілі ў астрог. Гэта і змусіла Аліндаркавага апекуна, якога юнак лічыў ужо за бацьку, схадзіць аж сем разоў у Ліду да нейкага вялікага судовага начальства, каб вызваліць беднага, нявіннага сіротку з астрогу. Вось як пра гэта гаворыцца ў самога Багушэвіча: *"А ён торбу ўзяў на плечы,па начальству просьбы жара! Тройчы Вільню,* ***сем раз Ліду*** *ён адведаў..."* .

На Ліду і Лідчыну Францішак Багушэвіч скіроўваў свой погляд не аднойчы. Так, ён згадвае Лідчыну ў лісце да **Яна Карловіча** за 10(22) чэрвеня 1886 года, паведамляе пра славуты на Лідчыне маёнтак Ружанка *(мабыць Ражанка)*, якім зацікавіўся сам віленскі губернатар.

Надзвычай цікавыя звесткі з Лідчыны ў Багушэвічавым лісце да Карловіча за 16(28) лістапада 1887 года. Тут пісьменнік расказаў цэлую гісторыю пра якогасьці пана з Лідскага павету **Казлоўскага**, з якім часта судзіліся сяляне і, вядома, заўсёды прайгравалі.

Але тут знайшоўся адзін, вельмі дападны селянін, які ўсё ж трохі нагнаў страху на гэтага Казлоўскага. Аднаго разу, прабадзяўшыся дзесьці пару тыдняў, ён пусціў пагалоску, што быў у Пяцярбургу, і цяпер пра ўсе штукарствы Казлоўскага ведае сам цар. І нібыта той, пахітаўшы абуральна галавой, сказаў: *"Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!"* Францішка Багушэвіча ва ўсёй гэтай гісторыі найбольш цікавілі апошнія словы. Яны на Лідчыне ў той час былі вельмі ходкія, гаваркія. Як толькі надарыцца нейкае нечаканае ашуканства ці махлярства, асабліва ад таго, ад каго яно не чакалася, то скрозь можна было пачуць: *"Ну, Казлоўскі! Я ж не спадзяваўся!"*. Багушэвіч запісаў выраз як прымаўку, як крылатыя словы, даследаваў іх вытокі, вызначыў, што свой пачатак яны бяруць з 1850 году, і радзіма іх – Лідчына.

Згадвае Багушэвіч Лідчыну і ў сваіх допісах у часопіс "Kraj". Так, у нататцы за 1886 год пісьменнік паведамляў, што на Лідчыне, гэтак жа, як і ў суседніх паветах, разлютаваліся матыліца, загінула шмат жывёлы (авечак), і гаспадары з-за гэтай хваробы на жывёлу маюць вялікія страты.

Вясной наступнага году на мяжы Лідскага і Віленскага паветаў разгулялася воспа, якая таксама нарабіла шмат гора людзям. Багушэвіч на свае вочы бачыў спярэшчаныя свежым рабаціннем твары людзей, якія прыходзілі з Ліды і Лідчыны ў віленскую кальварыю падчас зелёных сяткаў. Пра пабітыя воспай твары казалі: шылам голеныя. Шмат сем'яў павымірала. Пра ўсё гэта даведваемся з Багушэвічавай нататкі, змешчанай у часопісе "Kraj" за 1887 год (№ 22).

Як бачым, самыя разнастайныя з'явы з Ліды і Лідскага павету турбавалі паэта, траплялі на яго вока і пяро. Адкуль у яго такая цікавасць да Ліды і Лідчыны?

Мабыць, з тых часоў, калі Францішак настаўнічаў у Доцішках. Доцішкі ў тую пару былі якраз у межах Лідскага павету.

У Доцішкі Францішак Багушэвіч трапіў пасля выключэння ў 1861 годзе з Пецярбургскага універсітэта, дзе ён вучыўся на матэматычным факультэце.

Прытуліў выключанага студэнта гаспадар тутэйшага маёнтка **Аляксандр Жвіровіч** ды даручыў вучыць пісьменству мясцовых дзетак.

На Лідчыне, найбольш верагодна, Ф. Багушэвіч атрымаў і першае сваё баявое хрышчэнне як удзельнік паўстання 1863 года. Хутчэй за ўсё, што менавіта са Жвіровічам трапіў Багушэвіч да паўстанцаў. Схіляе да гэтай высновы і той факт, што 12 чэрвеня 1863 года пасля сутычкі з паўстанцамі карнікі наляцелі на Доцішкі і арыштавалі гаспадара маёнтка Аляксандра Жвіровіча ды параненага паўстанца Ўладзіслава Пілецкага, які разам з Францішкам Багушэвічам быў выключаны з універсітэта. Пілецкі паказаў на допыце, што ён ваяваў у аддзеле Людвіка Нарбута. У гэтым жа аддзеле ваяваў мастак Міхал Андрыёлі, які намаляваў партрэт Францішка Багушэвіча. У адным з баёў на Лідчыне Ф. Багушэвіч быў паранены.

І ў пазнейшыя гады, калі Багушэвіч, хаваючыся ад царскіх карнікаў, жыў на Ўкраіне, ён не адзін раз скіроўваў свае думкі на Ліду і Лідчыну. Ацалела капэрта за 1865 год. На ёй Багушэвічавай рукой напісана: *"Ея высокоблагародию г-же Карловичевой через Лиду в имение Подзитву".*

Жыццёвыя шляхі-дарогі і пазней не адзін раз прыводзілі Францішка Багушэвіча ў Ліду. У 1889 годзе яго запрашаюць працаваць юрысконсультам пры кіраўніцтве Палескіх дарог. Адна з гэтых ліній – Роўна-Вільня – пралегла праз Ліду. Не адзін раз прыводзілі Францішка Багушэвіча ў Ліду і адвакацкія клопаты. Ва ўсякім разе яго тут ведалі. У Лідзе і на Лідчыне ў яго было шмат знаёмых. Згадаем некаторых з іх з Багушэвічавымі характарыстыкамі:

**Станіслаў Нелавіцкі**, *"добры чалавек і арыгінал".*

**Сцяпан Буткевіч**, *галосны Лідскай гарадской Думы.*

**Люцыян Кабылінскі** *– павятовы шляхецкі маршалак, ганаровы міравы суддзя Лідскай судова-міравой акругі. "Ужо год, як у адстаўцы, хоць ездзіць яшчэ на тройцы"* (звесткі з 1892 году).



*Аляксандр Жвіровіч*

**Баляслаў Кіюць** – *"вельмі шаноўны чалавек, жыве недзе каля Ліды, здаецца арандуе фальварачак Нарымскай (Калясінскай)".*

Усе гэтыя імёны згадваюцца ў Багушэвічавых лістах да Яна Карловіча.

З цягам часу, магчыма, адкрыюцца і якіясь новыя звесткі пра Ліду і Лідчыну праз Багушэвіча. Але і згаданае сведчаць, Францішак Багушэвіч меў жывую цікавасць да Лідчыны, меў моцную повязь з самой Лідай. Гэтая повязь не перапынялася і пасля смерці. Яго ідэі жыватворным зернем упалі на душы многіх лідзянаў, і адной з іх была, як вядома, наша паэтэса-рэвалюцыянерка Алаіза Пашкевіч-Цётка.

... Над старажытнай Лідай шумяць вятры гісторыі. У гэтым ціхім пошуме можна пачуць і Багушэвічаў голас. Упэўнены: і на старажытным Лідскім замку ёсць пагляд яго вачэй. Францішак Багушэвіч быў адным з летапісцаў Ліды. Хай жа і яго сціплы радок з гісторыі Ліды і Лідчыны адгукнецца ў душах лідзянаў павагай да аднаго з тых, хто любіў Ліду, любіў усю Беларусь, рабіў усё, каб наш край прычакаў больш шчаслівай долі.

***Уладзімір Содаль,***
***Менск.***



***Францішак Багушэвіч з вучнямі ў в. Доцішкі.***
***З карціны Г. Сянькоўскага, 1984.***

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Ірэна Стасевіч-Ясюкова

# КАЗІМІР НАРБУТ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Якраз на падставе гэтых інфармацый у друку можна дакладна прасачыць дзейнасць радзымінскага святара, які, акрамя выканання сваіх абавязкаў, прымаў удзел і ў шматгадзінных рэлігійных абрадах, і ў свецкім жыцці палаца, у якіх ўдзельнічала ўся эліта тагачаснай Рэчы Паспалітай. Напрыклад, вельмі маляўнічым з'яўляецца апісанне асвячэння новага выбудаванага касцёла, якое змешчана ў 49 нумары "Варшаўскай газеты" за 1781 год.

*"...9 чэрвеня 1781 года прыехаў у Радзымін біскуп плоцкі з іншым біскупам, гісторыкам народу Адамам Нарушэвічам, са шматлікай світай плоцкіх і пултускіх святароў. Ён затрымаўся на плябаніі і адразу пайшоў у касцёл на пачатак вігіліі, якая, паводле звычаяў нашага касцёла, павінна папярэднічаць абраду асвячэння. На сустрэчу біскупа выйшла ўсё святарства, якое сабралася перад гэтым у Радзыміне, а за ім - некалькі тысяч народу. Вігілія адпраўлялася ў полі за мястэчкам. Там выставілі рэлквіі, якія біскуп меўся змясціць у галоўным алтары. Пасля адслявання вігіліі біскуп разам з Нарушэвічам вярнуўся ў плябанію, а потым адправіўся адтуль у палац, каб прывітаць княгіню, якая была вельмі рада, прымаючы свайго пляменніка, а разам з ім - слаўнага гісторыка і паэта.*

*Назаўтра, 10 чэрвеня, у нядзелю а восьмай раніцы плоцкі біскуп распачаў асвячэнне касцёла паводле належных абрадаў. Яно працягвалася доўга, недзе каля чатырох гадзін... "*

Потым змешчана апісанне прамовы біскупа, скіраванай да заснавальніцы касцёла, княгіні Элеаноры, і казанне для прысутных. Падчас службы грала капэла рускага ваяводы. Пасля заканчэння рэлігійных урачыстасцяў біскупы і княгіня адправіліся ў замак на абед. Там узносілі тосты за здароўе караля і княгіні, грала капэла, спяваліся напісаныя ў Варшаве арыі, якія выконваліся салістамі з прыемнымі галасамі.

У гэтай жа "Варшаўскай газеце", у 49 і 50 нумарах за 1781 год, было змешчана цікавае апісанне візіту ў Радзымін караля, які выбраўся туды 10 чэрвеня, каб агледзець новыя касцельныя пабудовы і, безумоўна, наведаць цётку. Нечакана было вельмі цяжка дабрацца, таму што ноччу прыбыла ў Вісле вада да такой ступені, што знішчыла мост. Таму трэба было перапраўляцца на лодках. З вельмі падрабязнай інфармацыі ў друку можна даведацца, што Станіслава Аўгуста Панятоўскага вітаў каля брамы ксёндз Казімір Нарбут з вернікамі, а потым дзякаваў каралю ў касцёле за дасланы з Варшавы дар - звон, названы імем караля. Станіслаў Аўгуст наведаў плябанію, пацікавіўся касцельнымі метрыкамі, праверыў, ці зроблены яны паводле апошніх распараджэнняў яго брата Міхала Панятоўскага - плоцкага біскупа, у епархіі якога знаходзіўся Радзымін. Кароль перадаў ксяндзу значную суму грошай на адпраўленне памінальных службаў за памерлых Панятоўскіх і на дапамогу бедным.

Таксама і пазнейшы візіт караля, у верасні 1782 года, меў вялікую зацікаўленасць з боку друку, што знайшло адлюстраванне ў вялікім рэпартажы "Варшаўскай газеты", у 73 нумары за 1782 год. Тады Станіслаў Аўгуст Панятоўскі разам з княгіняй хрысціў Тэклю Курдваноўскую, дачку Плацыда - папярэдняга кухмайстра Вялікага Княства Літоўскага - і Разаліі Граноўскай. Таемства хрышчэння здзейсніў Казімір Нарбут Як бачым, прыход у Радзыміне ўсё больш набліжаў яго да самых высокіх магнацкіх сфер Рэчы Паспалітай. Кароль, кожны раз лепей пазнаючы Нарбута, высока яго цаніў; акрамя таго, быў удзячны яму за апеку над састарэлай і хворай цёткай. Выразам гэтай удзячнасці было тое, што 4 красавіка 1787 года папа Пій VI афіцыйна зацвердзіў Казіміра Нарбута ў якасці радзымінскага святара, паколькі ён ужо значны час выконваў свае функцыі на гэтай пасадзе.

Пасля намаганняў Станіслава Аўгуста Панятоўскага маркграф Томаш Анцічы - кардынал і польскі рэзідэнт у Рыме - прызначыў ксяндза Нарбута сваім парадыскім каад'ютарам[25]. Гэтае званне, пазней абацкае, ён цаніў вельмі высока, выкарыстоўваючы гэты тытул да канца жыцця. Як мы ўжо ведаем, кароль меў намер зрабіць Нарбута гарадзенскім біскупам і - пра што мы пакуль не гаварылі - сенатарам. Здавалася, што Казімір Нарбут, які меў на той час крыху больш за 55 гадоў, дасягне самых высокіх прыступак у іерархіі касцёла і Рэчы Паспалітай. Але гэтага не здарылася ў сувязі з апошнім падзелам дзяржавы і драматычным лёсам яе ўладара.

Аднак не будзем спяшацца і вернемся зноў у васьмідзесятыя гады, калі Казімір Нарбут разгарнуў сваю дзейнасць у Радзыміне, а яго заслугі цаніла і княгіня, і каралеўская сям'я. Атрыманая ў той час пасада пробашча ў роднай, блізкай сэрцу Лідзе паставіла перад ім пытанне: як вырашыць праблему кіравання двума прыходамі на адлегласці ў некалькі сот кіламетраў? Не было мовы пра тое, каб пакінуць Радзымін, куды ён прыязджаў з недалёкай Варшавы ў кожную нядзелю і на святы, дакладна выконваючы свае абавязкі і дапамагаючы княгіні Элеаноры.

У той жа час у сталіцы ён актыўна дзейнічаў у Таварыстве пачатковых кніг. Таму выезд у Ліду быў немагчымы, а адмаўляцца ад лідскага прыходу Нарбут не хацеў, таму што быў звязаны з нёманскай і дзітвянскай старонкамі і пачуццямі, і сям'ёй. Нямала значылі для ксяндза, які не меў уласнай маёмасці, і фінансавыя даходы, што ішлі з прыходу на крэсах. Таму трэба было знайсці вырашэнне гэтай праблемы, і яно знайшлося. Доказам гэтага з'яўляецца напісаны ўласнаручна Нарбутам у ліпені 1783 года дакумент, які на працягу шмат гадоў быў у прыватным уладанні Міхала Шымялевіча з Ліды, і, на шчасце, быў апублікаваны ім у 1938 годзе ў "Лідскай Зямлі" (нумар 2, ст. 151-153). Гэта захавала тэкст ад знішчэння падчас Другой Сусветнай вайны і дазволіла яму дайсці да нашых часоў. Аднак у сувязі з тым, што гэтае перадваеннае выданне недаступна для чытачоў з Беларусі, мы надрукуем яшчэ раз - следам за Міхалам Шымялевічам - гэты вельмі цікавы рукапіс. Пачнём, аднак, з некалькіх слоў каментарыя, якія палегчаць прачытанне гэтага амаль невядомага ў Лідзе дакумента з васемнаццатага стагоддзя.

Святарскія абавязкі ў Лідзе падчас адсутнасці ксяндза пробашча павінны былі выконваць нанятыя ім свецкія або ордэнскія ксяндзы, пераважна кармеліты. Галоўным адміністратарам, які кіраваў прыходам, быў Павел Багінскі, які, у сваю чаргу, павінен быў усе даходы перадаваць за подпісам брату Казіміра Нарбута, лідскаму войскаму, які быў яго непасрэдным начальнікам.

А вось падрабязная інструкцыя ў арыгінальным гучанні[26].

*"... Ніжэй падпісаўшыся (Казімір Нарбут), даю гэтую маю інструкцыю, якая датычыць усіх даходаў прыхода, п. Паўлу Багінскаму установленаму пану яе адміністратару.*

*1. П. Павел Багінскі павінен аб усім дакладваць яснавяльможнаму пану Нарбуту, лідскаму войскаму, і за подпісам яму грашовы прыбытак аддаваць.*

*2. Прыме гаспадарку рашэннем грамады.*

*3. Перапіша падданых з зямлёй і быдлам з усімі павіннасцямі, чыншам і непублічнымі падаткамі.*

*4. Перапіша і аб'едзе вёскі, палі, лугі, лясы і г.д. і ўсе межы і адлюструе ўсе іх асаблівасці.*

*5. Возьме пад спіс быдла, коней і свіней, птаства, гаспадарчыя прылады.*

*6. Стан усіх пабудоў, корчмаў і г.д. апіша.*

*7. Пасевы азімыя і яравыя, якія ёсць, таксама апіша.*

*8. Розныя даходы з працэнтаў, чыншаў, дзесяцін, вырубаў у лесе і г.д., запіша*

*9. Будзе старацца пра даўнія рахункі шынкоў.*

*10. Выпіша ўсе ільготы: на публічныя падаткі, на ксяндзоў, на чэлядзь і г. д.*

*11. Цагельню трымаць на сябе і заўсёды мець цэглу ў запасе.*

*12. Вапну падрыхтаваць загадзя.*

*13. Праблемы з межамі вырашаць пры дапамозе яснавяльможнага войскага Нарбута.*

*14. Для ксяндза трымаць пару коней, экіпаж, чалавека, хлопца і кухара або старую гаспадыню. Дамовіцца з ксяндзом пра ўтрыманне і фураж для коней.*

*15. Касцельныя даходы забіраць штомесячна за подпісам ксяндза, а аддаўшы іх яснавяльможнаму пану войскаму забіраць у яго распіску.*

*16. Шынкарам разам шмат напояў не даваць, кожны тыдзень у суботу з імі разлічвацца і грошы забіраць.*

*17. Лядоўню зрабіць, піва добрае мець на любы густ у бутэльках; і добрую гарэлку. Піва ў сакавіку зрабіць для лядоўні.*

*18. Кароў вялікую колькасць трымаць, масла збіраць на сойм, птушку адкормленую таксама дасылаць у Гародню.*

*19. Касцельныя ахвяраванні, радно, воск і г.д. забіраць сабе і апісваць.*

*20. Клапаціцца аб патрэбах касцёла.*

*21. Усюды, асабліва ў плябаніі і фальварку, мець бочкі для вады і драбіны, часта чысціць коміны, для касцёла і фальварка рабіць ліхтары.*

*22. Мець у рэестры ўсе рэчы.*

*23. Клапаціцца пра падданых, пры неабходнасці выклікаць лекара за свой кошт, ведаць патрэбы кожнага. У карах быць асцярожным, пільнаваць, каб часта на гандаль не ездзілі і не прадавалі свайго збожжа.*

*24. Пры адсутнасці войскага звяртацца па параду да Нарбута стольніка.*

*25. Мне пісаць кожны тыдзень і спачатку паведамляць, што як ёсць, а потым - што робіцца; нагадваць таксама ксяндзу, каб паведамляў аб справах касцёла.*

*26. Усё пераняўшы, скласці спіс служкаў, як у фальварку, так і ў касцёле.*

*27. Плату людзям вымяраць паводле дагаворнай платы гэтага краю; гэтак жа і з шынкарамі; мець інфармацыю, што ім даецца за гандаль.*

*28. Ашчаджаць грошы па меры магчымасці.*

*29. Калі што будзе збывацца па патрэбе і ад шынкоў, то вывозіць гэта на продаж у Вільню. Але ніколі не пакідаць дом без прыпасаў, лепей мець больш, асабліва ў весну, калі людзі патрабуюць дапамогі.*

*30. Даведаўшыся пра абшары палёў і лугоў, пры неабходнасці трымаць парабкаў, быкоў і коней для работы; коней мець 4 і добрыя вазы для вывазу збожжа з поля і на продаж.*

*31. Дамовіцца з войскім пра соль: ці купляць яе ў Вільні, ці зімой прывезці з Рыгі, каб раздаць людзям; дамовіцца пра цану.*

*32. Усё для памяці сваёй запісваць, каб мноства інфармацыі не перапаўняла памяць.*

*33. Мець інфармацыю, ці не трэба прывезці французскага віна для касцёла і ў шынок.*

*34. Можа б не перашкаджала для ўласнай патрэбы мець мёд.*

*35. Калі пры броварах можна будзе карміць быкоў і вяпрука, то гэта выкарыстаць.*

*Усе гэтыя пункты п. Багінскі пакажа войскаму і дамову з ім падпіша і будзе выконваць.*

*Дня 10.7-бра 1783 у Радзыміне Кс. Казімір Нарбут (п. Багінскаму я дазволіў мець уласнага каня, каб мець выгоды і заробак).*

* * *

*1784 г. Дня 22 8-бра гэтаму ж п. Багінскамуя дазволіў і другога каня трымаць.*

*Кс. Казімір Нарбут, Лідскі Пробашч. "*

* * *

Наступная падрабязная інструкцыя лідскага пробашча, таксама вельмі цікавая і характэрная, паходзіць з 15 ліпеня 1785 года. Прыводзім яе таксама ў арыгінальным гучанні.

*"1785год.Дня15. 7-бра. У Радзыміне.*

*Распараджэнне, дадзенае пану Паўлу Багінскаму, адміністратару лідскага прыходу.*

*Прагледзеўшы рахункі і тлумачэнні, я заўважаю надзвычайныя выдаткі і шмат пазычаных грошай і збожжа, пропускі ў запісе ўсіх рэчаў. Па гэтых прычынах раблю наступныя распараджэнні:*

*1. Каб кожная рэч, якая дае прыход і расход, была запісана, г.зн. прыход збожжа ў снапе і ў зерні, прыход быдла, авец, свіней, коней і птаства; прыход масла, сыру, зерня, мёду, воску, алею, ільну, каноплю і г.д. Расход збожжа на пасеў і продаж; хлябы, асабліва для ксяндзоў сябе і чэлядзі; расход кашы, сала, масла, сыроў, радна, валовых скур, авечых скурак, свіней, птаства і г.д., якія былі прададзены.*

*2. Грошай не выдаткоўваць без патрэбы і нарады з панам войскім, да якога звяртацца па кожнай справе, слухацца яго рад і штомесяц аддаваць ямурахункі або ў той час, калі ён захоча.*

*3. У свіран сам павінен хадзіць або жонка і ключы хаваць у сябе, але ніколі не давяраць іх цівуну.*

*4. Навучыцца лічэнню мукі на хлеб, каб без лішку чэлядзь мела выгоды.*

*5. Касцельныя даходы ў грашах і воску ксяндзы павінны забіраць; грошы аддаваць пану войскаму, а воск забіраць на патрэбы касцёла; на збожжа і іншыя рэчы, аддадзеныя для правіянту, даваць ксяндзам паквітаванне, а сабраныя на ахвяраванні хлябы аддаваць лідскім і крупаўскім жабракам. А рэшткі ашчадна выдаткоўваць на чэлядзь, каб не было лішку.*

*6. Грошай ані збожжа нікому не пазычаць без дазволу пана войскага, апрача сваіх падданых, якія адчуваюць патрэбу, а што каму пазычаецца, адразу запісваць і вызначыць тэрмін, калі аддаць павінен.*

*7. Запісваць таксама звезеныя цэглу і вапну.*

*8. Ад арэндатараў не браць грошай часткамі, толькі ў тэрмін.*

*9. Прыход і расход гарэлкі запісваць, чэлядзі даваць толькі на святы, толькі, калі верны і пільны, то можна часцей; іншым, толькі калі была вельмі важная работа дапазна.*

[25] ***Коад'ютар**, у каталіцкім кастёле святар назначаны кастёльнымі уладамі да дапамогі святару вышэйшага звання, звычайна біскуп тытулярны устаноўлены пры асобе біскупа ардынарыўша альбо пры апостальскай сталіцы*

[26] *Інструкцыя напісана па-польску з некаторымі краёвымі асаблівасцямі тэрміналогіі.*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





Лідскі касцёл

*10. Не дазваляю аніякіх экстраардынарных выдаткаў, нпр падчас судоў, сходаў або іншых з'ездаў.*

***Ніхто з маіх братоў не мае права на загады ані ксяндзы, якія жывуць на плябаніі, толькі сам пан войскі мае ўладу і права распараджацца, без яго выразнага загаду нікому нічога не даваць, нават маім родным.***

***11. Мураванага дому на могілках нікому не здаваць, а чакаць распараджэння пана войскага.***

***12. Каб уберагчыся ад празмерных выдаткаў, на ўсё скласці табліцу расходаў для сябе і чэлядзі, якую зацвердзіць пан войскі.***

*Радзымін, год 1785. Дня 21.7-бра Кс. Кмр Нарбут Лідскі Пробашч "*

* * *

Мы прывялі цалкам некалькі інструкцый з 1783, 1784 і 1785 гадоў, высланых Казімірам Нарбутам адміністратару лідскага прыходу Паўлу Багінскаму, таму што яны паказваюць лідскага пробашча ў зусім новым святле.

Аўтар першай польскамоўнай логікі, перакладчык іншамоўных тэкстаў, вядомы дзеяч адукацыі, які меў прыязныя адносіны з інтэлектуальнай элітай Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, якога высока цанілі магнацкія двары і сам кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, адкрыў у прадстаўленых тэкстах зусім нечаканыя рысы характару. Мы нібы пазнаем новую асобу: вельмі ашчаднага, прадбачлівага гаспадара, які цудоўна арыентуецца ў эканамічных пытаннях і ва ўсіх рэаліях свайго прыходу, у якім быў не фіктыўным пробашчам, хаця Ліду ад Радзыміна і Варшавы падзяляла вельмі шмат кіламетраў.

Гэта быў хіба найлепшы перыяд у жыцці ксяндза Нарбута. Яго дзейнасць у розных галінах высока цанілася, ён быў фінансава незалежны. А акрамя таго, перад ім адкрываліся цудоўныя перспектывы вяртання на родную зямлю, амаль у гняздо, у якасці гарадзенскага біскупа.

### *Час вяртання*

Вяртанне Казіміра Нарбута на Лідчыну, у роднае гняздо, сапраўды адбылося, але не ў якасці біскупа і пры зусім іншых абставінах. Яшчэ ў 1794 годзе ён суправаджаў княгіню Элеанору Чартарыйскую ў яе падарожжы ў Замосце, дзе цяжкасці дарогі і сямейныя клопаты прывялі да яе смерці. Нарбут застаўся верны княгіні да канца, адспяваўшы ёй рэквіем і правёўшы жалобнае набажэнства. Пасля ён вярнуўся ў Варшаву, але не заспеў ужо там сяброў, а Рэч Паспалітая ўжо адыходзіла ў нябыт. Пасля трэцяга падзелу Польшчы ў 1795 годзе і адрачэння Станіслава Аўгуста Панятоўскага Казімір Нарбут цалкам адышоў ад грамадскага жыцця і прыняў рашэнне вярнуцца на Лідчыну ў Радзівонішкі, маёнтак свайго брата Дамініка. У гэтыя гады нацыянальнай паразы Нарбут вырашае таксама адмовіцца ад пасады пробашча, як у Радзыміне, так і ў Лідзе, пакідаючы толькі тытулярную годнасць парадыскага абата. Аднак трэба дадаць, што ад лідскага прабоства Нарбут адмовіўся на карысць свайго пляменніка, ксяндза Вінцэнта. Радзівонішкі, якія павінны былі стаць жыццёвым прыстанкам Казіміра Нарбута, знаходзяцца недалёка ад Ліды і ракі Дзітвы. Засмучаны ходам палітычных падзей, пазбаўлены веры і ўсялякіх аўтарытэтаў, пасля таго, як кароль пакінуў польскія землі, 57-гадовы ксёндз вырашыў правесці рэшту свайго працавітага жыцця ў цішы братавага маёнтка. І так сталася, што гэтаму рашэнню ён быў верны 12 гадоў, г.зн. да часу сваёй смерці. Адзіным выключэннем быў выезд у Ліду ў 1801 годзе, каб асвяціць краевугольны камень пад касцёл, які меліся будаваць піяры. Гэта было цалкам зразумела, таму што Нарбут, нягледзячы на секулярызацыю, заставаўся ў вельмі добрых адносінах са сваімі ордэнскімі братамі, дапамагаючы ім у розных абставінах, як, нпр., у перамовах паміж цэнтральнымі адукацыйнымі ўладамі і лібаўскімі піярамі. Але гэта было ўжо мінулае, да якога ён не хацеў вяртацца. Што ён рабіў у маёнтку брата, невядома, але мы можам здагадацца. Напэўна, заняўся гаспадаркай. Біёграф Антоні Машынскі, піяр, запісаў толькі, што Казімір Нарбут пасля кароткай хваробы, у здаровым розуме, пасля прыняцця святых таінстваў памёр у Радзівонішках 17 сакавіка 1807 года. Ён быў пахаваны ў папярэдне падрыхтаваным адзенні святара *"ў склепе ўніяцкай царквы "*, якая знаходзілася на тэрыторыі маёнтка.




**Карта мясцовасцяў, звязаных з жыццём і дзейнасцю К. Нарбута.**

Апрацаваў і выканаў [illegible] Мар'ян Новак.

### *Эпілог*

У 1995 годзе ГА "Таварыства Польскай Культуры на Лідчыне" арганізавала навуковую сесію, прысвечаную Ігнацію Дамейку і іншым знакамітым постацям з гэтых тэрыторый, якія ўнеслі трывалы ўклад у навуку і культуру. У гэтай сесіі ўдзельнічала таксама група вучоных з Польшчы. Калі я выступіла з рэфератам пра Казіміра Нарбута, да мяне падышоў тутэйшы мужчына і прапанаваў наступным днём (1 верасня 1995 г.) паехаць у Радзівонішкі, каб убачыць магілу героя майго выступлення. Як высветлілася, гэта быў Валеры Сліўкін, кандыдат геаграфічных навук, навуковы супрацоўнік гістарычна-мастацкага музея ў Лідзе. Нягледзячы на тое, што з таго часу прайшло амаль 10 год, я ўсё вельмі добра памятаю. У невялікай машыне пана Сліўкіна змясцілася неяк 5 чалавек, г.зн., акрамя гаспадара, яго сябар Станіслаў Суднік - паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, галоўны рэдактар гістарычнага квартальніка "Лідскі летапісец", мой муж Ежы Ясюк - дырэктар Музея тэхнікі ў Варшаве, праф. др. медыцыны Раман Мейснэр з Медыцынскай Акадэміі ў Познані і я. Падарожжа было цікавым: мы агледзелі некалькі вартых пазнання помнікаў, паміж іншым, прыгожы помнік забітым падчас II Сусветнай вайны яўрэям, які знаходзіцца ў лесе, і гістарычную абарончую царкву. Потым салдат з дарожнай службы затрымаў нас за перавышэнне хуткасці, але тлумачэнні Валерыя Сліўкіна, што ён вязе замежных навукоўцаў, дапамаглі, і нас не аштрафавалі. Пасля мы ехалі пад пагрозай заканчэння бензіну, а прыдарожныя запраўкі былі зачынены - ці то з нагоды 1 верасня, ці часу абеду. Валеры Сліўкін і гэтыя перашкоды пераадолеў, здабываючы бензін. Далейшае падарожжа ў Радзівонішкі адбылося без усялякіх перашкод. Наш прыезд у гэтую невялікую мясцовасць, якая знаходзіцца на паўднёвым захадзе ад Ліды, выклікаў здзіўленне; напэўна, зрэдку прыязджалі туды іншаземцы, якія не былі роднымі мясцовых жыхароў. Даўняй уніяцкай царквы, у падзямеллі якой быў пахаваны Казімір Нарбут, ужо не было. Паблізу пабудавалі новую царкву. Здзіўленне жыхароў Радзівонішак было яшчэ большым, калі Сліўкін і Суднік, здабыўшы - не без намаганняў - рыдлёўку, пачалі капаць зямлю ў тым месцы, дзе знаходзілася ўніяцкая царква. Яны лічылі, што знойдуць там, можа, нешта, звязанае з Нарбутам. За гэты час каля нас сабраўся тлум жыхароў вёскі. Яны былі ўпэўнены, што прыехалі нашчадкі даўніх гаспадароў маёнтка і шукаюць закапаныя калісьці залатыя рублі, долары і біжутэрыю. Ніхто не верыў, што мы шукаем сляды нейкага невядомага ім ксяндза, які памёр амаль 200 гадоў таму. Пасля гадзіны інтэнсіўнай фізічнай працы, якая была не з лёгкіх, нашы беларускія сябры падарожжа і яго ініцыятары перасталі капаць. Яны нічога не знайшлі. Тады я выступіла перад жыхарамі Радзівонішак, упэўніўшы іх, што пішу кнігу пра іх земляка, Казіміра Нарбута. Я папрасіла, каб яны працягвалі шукаць усё, што яго датычыцца, і перадалі знойдзенае ў музей у Лідзе, Валерыю Сліўкіну або Станіславу Судніку. Я спадзявалася, што хто-небудзь адгукнецца. Чакаю да сённяшняга дня, але, на жаль, безвынікова... А можа, ўвогуле ніхто не паверыў у існаванне ксяндза піяра Даніэля Казіміра Нарбута?

## КАЛЯНДАР

### *Найбольш важныя даты і факты з жыцця піяра Казіміра Даніэля Нарбута*

**3 студзеня 1738 года** - нарадзіўся ў Крупе каля Ліды, у шляхецкай сям'і мечніка літоўскага - пасля лідскага маршалка -Казіміра Нарбута і Марыяны з Навіцкіх; хрышчоны 5 студзеня гэтага ж года ксяндзом пробашчам Пятром Стракоўскім; атрымаў імя Даніэль (Казімір - ордэнскае імя).

Вучоба ў піярскай школе ў Шчучыне Літоўскім (які называўся таксама Лідскім).

**25 ліпеня 1755 года** - прыняцце ў ордэн піяраў.

**1755-57** - паслушніцтва ў Любяшове каля Пінска.

**1757 г. (з 14 верасня) - 1759 г.** - вучоба ў Дуброўніцы на Піншчыне. Філасофска-тэалагічны курс.

**1759 г.** - накіраванне Нарбута на далейшую вучобу ў піярскі Collegium Mobilium у Вільні.

Выезд Казіміра Нарбута - за кошт яго сям'і - на чатырохгадовую вучобу ў Рым, у асноўным у галінах філасофіі і тэалогіі.

**6 красавіка 1761** г. - святарскае прысвячэнне, якое атрымаў ад архібіскупа Дамініка Джыардані; наданне Нарбуту папам Кляменсам XIII асаблівых прывілеяў.

Вяртанне ў Рэч Паспалітую Абодвух Народаў: настаўнік гісторыі, французскай мовы і рыторыкі ў Дуброўніцы, дзе адначасова з'яўляўся прэфектам.

Пераезд у Вільню: лекцыі філасофіі у піярскім Collegium Mobilium кіраўніцтва віленскай друкарняй піяраў.

**1769 г.** - напісанне і публікацыя першага польскамоўнага падручніка логікі пад назвай "Логіка, або прадумвання і разважання рэчаў навука" (Вільня, 1769).

Чатырохгадовы побыт (паміж іншым, падчас першага падзелу Польшчы ў 1772 годзе) з сынамі Міхала Бжастоўскага ў Германіі і ў Францыі. **1774 г.** - вяртанне ў Польшчу.

### *20-гадовы побыт у Варшаве*

**З 1774 г.** - блізкае супрацоўніцтва з літоўскім канцлерам князем Міхалам Фрыдэрыкам Чартарыйскім, дзядзькам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Доктарская праца па юрыспудэнцыі ў Кракаўскай Акадэміі.

**10 лютага 1775 г.** - Камісія Нацыянальнай Адукацыі прызначае Нарбута правадзейным членам Таварыства пачатковых кніг.

**1775-1792** - дзейнасць у Таварыстве.

Каля **1775 года** - секулярызацыя. Атрыманне ад княгіні Элеаноры Чартарыйскай прыходу ў Радзыміне, дзе быў пробашчам каля 20 год. Будова новага мураванага касцёла.

**1780 год** - К. Нарбут атрымлівае ад віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага прыход у Лідзе і кіруе ім пры дапамозе адміністратара Паўла Багінскага, які цалкам падпарадкоўваецца Нарбуту.

Дзякуючы намаганням Станіслава Аўгуста Панятоўскага маркграф Томаш Анцічы, кардынал і польскі рэзідэнт у Рыме, прызначае ксяндза Нарбута сваім каад'ютарам у парадыскім абацтве.

**Лістапад 1793 г.** - кароль узнагароджвае Нарбута ордэнам св. Станіслава.

Пасля трэцяга падзелу Польшчы ў **1795 годзе** Нарбут адмаўляецца ад усіх пасад, ад прыходаў у Радзыміне і ў Лідзе.

### *Дзевяностыя гады - вяртанне на Лідчыну*

Нарбут пераязджае назаўсёды ў Радзівонішкі, маёнтак брата Дамініка, у якім праводзіць 12 гадоў.

Перадае прыход у Лідзе пляменніку, ксяндзу Вінцэнту.

**1801 г. - асвячэнне Нарбутам краевугольнага каменя пад будову піярскага касцёла ў Лідзе.**

**17 сакавіка 1807 г.** - смерць К. Нарбута. Пахаваны ў Радзівонішках, у падзямеллі ўніяцкай царквы.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



## МІЛІЦЫЯ НЕ РАСПАЧАЛА КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ ПА ФАКЦЕ ЗНІКНЕННЯ ДОШКІ З ПАМЯТНАГА ЗНАКА М.БАГДАНОВІЧУ Ў МУЗЕЙНЫМ КОМПЛЕКСЕ "СЯДЗІБА РАКУЦЁЎШЧЫНА"

Менск, 20 студзеня. Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС Менскай вобласці не сталі распачынаць крымінальную справу па факце знікнення дошкі з мемарыяльнага знака класіку беларускай літаратуры Максіму Багдановічу ў музейным комплексе "Сядзіба Ракуцёўшчына", які знаходзіцца ў вёсцы Ракуцёўшчына і з'яўляецца філіялам Літаратурнага музея М.Багдановіча ў Менску. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў супрацоўнік крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС Сяргей Краскоўскі.

Паводле яго слоў, прычынай адмовы ў завядзенні крымінальнай справы з'яўляецца нязначны кошт памятнай дошкі. "Супрацоўнікі Маладзечанскага раённага аддзялення Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры далі заключэнне, згодна з якім кошт мемарыяльнай дошкі складае каля 2 млн. рублёў. На падставе ж даведкі сталічных спецыялістаў, кошт сілумінавага сплаву, з якога выраблена пліта, складае прыкладна 50 тыс. рублёў. Вось чаму знікненне дошкі кваліфікуецца як дробны крадзеж", — зазначыў С. Краскоўскі. Паводле яго слоў, пры ўстанаўленні выкрадальніка пліты, ён будзе прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

У інтэрвію БелаПАН дырэктар комплекса "Сядзіба Ракуцёўшчына" Галіна Казакевіч выказала абурэнне фактам знікнення дошкі. "Гэта праяўленне непавагі да свайго земляка — генія беларускай паэзіі Максіма Багдановіча напярэдадні 115-годдзя з дня яго нараджэння", — падкрэсліла Г.Казакевіч. Яна лічыць, што супрацоўнікі праваахоўных органаў фармальна паставіліся да справы ўстанаўлення асобы, якая ўчыніла крадзеж. "Бо каштоўнасць мемарыяльнай пліты ацэньваецца не коштам металу, з якога яна зроблена, а натхнёнай працай людзей, якія ўклалі душу ў стварэнне дошкі", — зазначыла Г.Казакевіч.

Нагадаем, што ў чэрвені 1977 года па прапанове Мінскага абласнога краязнаўчага музея і пры ўдзеле заслужанага работніка культуры БССР Вячаслава Ляшковіча на ўзгорку каля дарогі Чысць — Ракуцёўшчына быў узведзены помнік з двух валуноў, адзін з якіх служыў пастаментам для другога. На ім была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з тэкстам і паэтычнымі радкамі з "Санета" М.Багдановіча. Помнік з'яўляецца часткай комплекса "Сядзіба Ракуцёўшчына", уключанага ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. Знікненне пліты было выяўлена 3 снежня 2005 года.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ДЫСКА ПАЛАНЭЗАЎ М. К. АГІНСКАГА

Прэзентацыя дыска "Паланэзы Міхала Клеафаса Агінскага" адбылася 19 студзеня ў Гасцёўні Уладзіслава Галубка — філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры.

На дыску, які з'яўляецца адным з найбольш поўных аўдыёзапісаў фартэпіяннай музыкі вядомага беларускага палітычнага дзеяча і дыпламата, гісторыка і таленавітага кампазітара, прадстаўлены 24 паланэзы, дзве мазуркі і адзін менуэт М.Агінскага ў выкананні яго нашчадка па лініі дачкі Амеліі, піяніста і кампазітара, аўтара некалькіх рок-опер Іва Залускага, які жыве ў Лондане (Вялікабрытанія). Ініцыятарам выдання дыска стаў старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны.

Дырэктар музея Зінаіда Кучар паведаміла, што прэзентацыя праводзіцца ў рамках мерапрыемстваў, прысвечаных 240-годдзю з дня нараджэння М.Агінскага (1765—1833), якое адзначалася 26 верасня 2005 года. "Да гэтай даты Менскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне паставіў спектакль паводле п'есы Уладзіміра Драздова "Фантазія ля мінор", які быў паказаны на радавой сядзібе М.Агінскага, што цяпер аднаўляецца, у вёсцы Залессе Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці", — сказала З.Кучар. Яна выказала падзяку стваральнікам дыска, у тым ліку сталічнаму выдавецтву "Каўчэг" і ЗАТ "Абсалютбанк".

Паводле слоў У.Шчаснага, у мінскім выдавецтве "Чатыры чвэрці" неўзабаве выйдзе кніга І.Залускага "Ген Агінскага", а ў выдавецтве "Каўчэг" завяршаецца праца над стварэннем калекцыі "Музыка Беларусі XX стагоддзя", агульная працаглась гучання якой складае пяць гадзін.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# Адновім мову

**Крыжаванка Лявонція Целеша, г. Дзяржынск**



**Па гарызанталі:**
**7.** Звычай перагароджваць дарогу вясельнаму поезду з мэтай атрымаць выкуп за маладую.
**8.** Салаў'іны... насякомае, якое выдае стракочучыя гукі. Занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі.
**11.** Беларускі кампазітар і педагогд. Нар.артыст БССР Прафесар Аўтар оперы "У пушчах палесся" па аповесці Я. Коласа "Дрыгва", аўтар музыкі да фільмаў і пастановак, многіх сімфанічных твораў і інш.
**12.** Расліна з буйным, на высокам сцебле, жоўтым суквеццем-кошыкам, запоўненым семем, багатым на алей.
**14.** Беларускі мастак. Краязнавец, філакартыст, грамадскі дзеяч. Аўтар партрэтаў Ф. Скарыны, Я. Купалы, Я. Райніса, А. Мальдзіса і інш. аўтар тэкстаў і складальнік кнігі "Мінск на старых паштоўках", "Гарады Беларусі на старых паштоўках". Жыве ў г. Рызе.
**15.** Возера ў Ушацкім раёне Віцебскай вобласці.
**16.** Назва на Беларусі грошa польскага. Выйшаў з ужытку ў першай палове 18 стагоддзя.
**19.** Чалавек, які праводзіць доследы.
**20.** Жолуд (масць, уст.)
**21.** Адвар з варыўшыміся ў ім сухафруктамі і ягадамі.
**25.** Раздзел медыцыны пра захворванні вуха, горла, носа і іх лячэнне.
**28.** Канструкцыя перакрыцця або пакрыцця будынка, якая абмяжоўвае памяшканне зверху.
**29.** Польскі палітычны дзеяч, першы прэзідэнт незалежнай дэмакратычнай Польшчы.
**30.** Прыстасаванне для аховы твару, шыі і плячэй ад пчаліных джалаў у час работы пчаляра на пасецы.
**33.** Беларускі скульптар. Нар. мастак БССР, прафесар стварыў партрэты П. Машэрава, Г.Ахматавай і інш. аўтар манументальных скульптур: помнікі М. Гастэлу і яго экіпажу, А. Матросаву, Я.Купалу у Менску, аўтар мемарыялу "Прарыў"
**34.** Стварэнне новых па задуме культурных або матэрыяльных каштоўнасцяў.
**35.** Выдатны дзеяч навукі, мастацтва.
**36.** Беларуская ўрадавая рэзідэнцыя ў Белавежскай пушчы, дзе было падпісана пагадненне аб утварэнні Садружнасці Незалежн. Дзяржаў.

**Па вертыкалі:**
**1.** Герой Савецкага Саюза. Лётчык. У Вял. Айч. вайну зрабіў 74 баявыя вылеты, знішчыў 11 самалётаў ворага. Загінуў у час Курскай бітвы. Яго імем названы вуліцы ў Менску. Віцебску, Полацку, Сянно.
**2.** Беларускі археолаг. Першы пачаў вывучаць старажытны Менск. Вёў раскопкі ў Полацку, Ваўкавыску. Адзін з аўтараў кніг "Гісторыя Менска", "Нарысы па археалогіі Беларусі".
**3.** Від ускоснага падатку пераважна на прадметы шырокага ўжытку.
**4.** Асобная складовая частка ланцуга.
**5.** Князь полацкі ў 1230-я гады жыў у Віцебску, выдаў сваю дачку замуж за наўгародскага князя Аляксандра Неўскага.
**6.** Майстар прыгатавання стравы, ежы.
**9.** Рэлігійна-палітычны рух у Еўропе ў 2-й палове 16-17 стаг., узначалены папствам. У Беларусі ідэі гэтага руху вызначалі духоўнае жыццё амаль да сярэдзіны 18 стаг.
**10.** Комплекс навуковых дысцыплін, арыентаваных на ўсебаковае вывучэнне славян на Беларусі вывучэннем славян займаліся З. Даленга-Хадакоўскі, Баброўскі М., Я. Карскі, А. Будзіловіч і інш. вучоныя.
**13.** Тып этнічнай супольнасці і сацыяльнай арганізацыі людзей, уласцівы першабытна-абшчыннаму ладу.
**17.** Прыстасаванне для праезду (праходу) да ўзвышаных частак будынка.
**18.** Назва віду рэдкіх на Беларусі лятучых мышэй Занечсены ў Чырвоную Кнігу Беларусі.
**22.** Вапнавы нараст, які мае форму ледзяша, які спускаецца са столі пячоры.
**23.** Дэталь хадавога механізму гадзінніку.
**24.** Адпаведны час земляробчага каляндара перад калядамі. У гэты час царква забараняла гульні, забавы, спраўляць вяселлі і г.д.
**26.** Сцяг.
**27.** Кандытарскі выраб.
**31.** Служка культу (застар.).
32. Украінскі дзяржаўны дзеяч з беларускага шляхецкага роду. Паплечнік гетмана І. Мазепы. Аўтар першай украінскай канстытуцыі.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 3.

**Па гарызанталі:**
1. Дудар. 2. Харызма. 6. Крапіва. 9. Сха. 10. Марыя. 11. Зарок. 13. Орша. 14. Лозка. 16. Блок. 17. Кот. 19. Кво. 21. Ага. 23. Агарак. 26. Байкот. 28. Ландтаг. 29. Корбут. 31. Каўпак. 34.Цна. 35. Лік. 37. Уюн. 38. Лапа. 39. Дукат. 40. Корш. 43. Наяды. 44. Сваха. 45. НАК. 46. Іванава. 49. Ізабаты. 50. Зянон.

**Па вертыкалі:**
1. Дым. 2. Рур. 3. Хлюпота. 4. Зара. 5. Асялок. 6. Казько. 7. Аўра. 8. Адвакат. 10.Мушка. 12. Кулік. 15. Зводнік. 17. Кобец. 18. Валуй 20. Шагал. 22. Арган. 24. Гро. 25. Кат. 26. Бак. 27. Ода. 29. Калядкі. 30. Рэпін. 32. Проза. 33. Кушляны. 35. Лучына. 36. Карскі. 41. Ляда. 42. "Каза". 47. Воз. 49. Зан.


**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 23. 01. 2006 г. у 11.30. Замова № 9.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.


© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013